Установа адукацыі
"Брэсцкі дзяржаўны універсітэт імя А.С. Пушкіна"

Філалагічны факультэт

Кафедра беларускага мовазнаўства

**М. І. Пашкевіч**

# *РУБЕЛЬСКІ ЛЕКСІКА-ФРАЗЕАЛАГІЧНЫ СЛОЎНІК*

Для студэнтаў-філолагаў

БрДУ імя А.С. Пушкіна
2008

УДК 81’28(038)
ББК 84-4
П22

*Рэкамендавана рэдакцыйна-выдавецкім саветам*
*установы адукацыі*
*“Брэсцкі дзяржаўны універсітэт імя А.С. Пушкіна”*

*Рэцэнзенты:*

старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа
НАН Беларусі кандыдат філалагічных навук
**Ф.Д. Клімчук**

кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры
гісторыі беларускай мовы і дыялекталогіі БрДУ імя А.С. Пушкіна
**М.М. Аляхновіч**

**Пашкевіч, М. І.**

П22 Рубельскі лексіка-фразеалагічны слоўнік : для студ.-філолагаў / М. І. Пашкевіч ; Брэсц. дзярж. ун-т імя А. С. Пушкіна, Філал. фак., Каф. беларус. мовазнаўства. – Брэст : Выд-ва БрДУ, 2008. – 66 с.
ISBN 978-985-473-306-7.

У слоўнік уключаны 910 слоў і 200 фразеалагізмаў, якімі карыстаюцца жыхары вёскі Рубель Столінскага раёна. Кожнай моўнай адзінцы даецца тлумачэнне, прыводзіцца прыклад, які ілюструе яе значэнне.

Адрасуецца выкладчыкам і студэнтам філалагічных факультэтаў, краязнаўцам, усім, хто любіць і шануе роднае слова.

**УДК 81’28(038)**
**ББК 84-4**

**ISBN 978-985-473-306-7**

# ПРАДМОВА

Кожная гаворка, нягледзячы на колькасць яе носьбітаў, з'яўляецца унікальнай, непаўторнай і вартая таго, каб быць захаванай і перададзенай нашчадкам.

Гаворка жыхароў вёскі Рубель Столінскага раёна таксама вызначаецца своеасаблівасцю гучання, адметнасцю слоўнікавага складу, багатай сінанімікай, выразнай эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкай, што дапамагае перадаць у розных жыццёвых сітуацыях найтанчэйшыя нюансы пачуццяў вяскоўцаў, дакладна ахарактарызаваць з'явы навакольнай рэчаіснасці, паводзіны, учынкі, знешні выгляд чалавека.

Лексічны і фразеалагічны фонд гаворкі рубельцаў, як і іншых мясцовых гаворак, прыкметна абнаўляецца, папаўняецца. Але, на жаль, пры гэтым страчваюцца некаторыя адметныя моўныя адзінкі: яны незваротна знікаюць разам са сваімі носьбітамі, становяцца рэдкаўжывальнымі, часам замяняюцца рускамоўнымі эквівалентамі.

Гэты слоўнік – спроба захаваць адметны пласт рубельскай лексікі, зберагчы фразеалагізмы, што выўляюць назіральнасць, дасціпнасць, мудрасць вяскоўцаў.

У слоўнік уключаны лексемы, якія не ўваходзяць у склад унармаванай мовы (*боўнацца, доўнаць, нетрончацца, оддзяніць, осырыць*) ці прыкметна адрозніваюцца сваім гучаннем ад літаратурных адпаведнікаў (*браскаць – бразгаць; бытто – быццам; зарэ – зараз; курчэня – кураня; мэтушацца – мітусіцца; порэйпаны – парэпаны; рострыбушыць – расцерушыць; скіргітаць – скрыгатаць; чэплея – чапяла*). Значэнне некаторых слоў не супадае з аналагічнымі моўнымі адзінкамі, зафіксаванымі ў лексікаграфічных нарматыўных даведніках (*гранка – баразна, батарэйка – ліхтарык, жыроўка – лямпачка для кішэннага ліхтарыка, ладзіцца – мірыцца, тумак – недарэка*). Па-за межамі дыялектнага слоўніка засталіся лексемы, якія актыўна выкарыстоўваюцца ў маўленні рубельцаў і кваліфікуюцца ў тлумачальным слоўніку беларускай мовы як размоўныя, напрыклад: *нядошлы, пушыць, трасучка, хамула, шманаць, шмаровоз і інш.* Кожны, хто цікавіцца родным словам, зверне ўвагу на тое, што многія моўныя адзінкі рубельскай гаворкі ўступаюць у сінанімічныя адносіны, вызначаюцца семантычнай ёмістасцю.

Некаторыя лексічныя адзінкі, змешчаныя ў слоўніку, характарызуюцца нізкай частотнасцю ўжывання ці ўвогуле ўспрымаюцца як устарэлыя: *запірэнька, крайка, налёднік, прыніца, пешня, корытаж, рэзка і інш.*

Значэнне кожнай моўнай адзінкі раскрываецца ў ілюстрацыі, дзе адначасова выяўляюцца асаблівасці маўлення рубельцаў. Калі лексема

мнагазначная, то ілюструецца толькі тое яе значэнне, якое не ўласцівае для ўнармаванай беларускай мовы: *выбіць – адмераць; вызубрыць – насварыцца; покрышка – накідка на падушку; багач – вогнішча, агонь; сілос – вінегрэт, позбіваць – скасіць.*

У слоўніку змешчаны фразеалагізмы, якія шырока выкарыстоўваюцца ў рубельскай гаворцы. Некаторыя з іх да гэтага часу не ўключаны ў фразеаграфічныя даведнікі, напрыклад: *быць у бывалцах, вывэрнуць кожуха, з гуздром понесці, іці на козыр, капорэ вонэ, накінуць чмуту, узяць на цыліндры і інш.*

Усе рэестравыя моўныя адзінкі размешчаны ў алфавітным парадку і надрукаваны тлустым шрыфтам. Акрамя літары *ё*, кожная націскная галосная ў іх акцэнталагічна выдзелена адпаведным значком.

У слоўнік уключаны 940 лексічных адзінак і 195 фразеалагізмаў.

## УМОЎНЫЯ СКАРАЧЭННІ

абразл. – *абразлівае*
аг. – *агульны назоўнік*
безасаб. – *безасабовы*
выкл. – *выклічнік*
груб. – *грубае*
дзеясл. – *дзеяслоў*
дзіц. – *дзіцячае*
ж. – *жаночы род*
жарт. – *жартаўлівае*
заг. – *загадны лад дзеяслова*
займ. – *займеннік*
зак. – *закончанае трыванне*
зб. – *зборны назоўнік*
звар. – *зваротак*
злуч. – *злучнік*
іран. – *іранічнае*
лаянк. – *лаянкавае*
лічэбн. – *лічэбнік*
м. – *мужчынскі род*
мн. – *множны лік*
н. – *ніякі род*
неадабр. – *неадабральнае*
незадав. – *незадавальняючае*
незак. – *незакончанае трыванне*
нескл. *нескланяльнае*
пабочн. – *пабочнае*
пагардл. – *пагардлівае*
перан. – *пераноснае значэнне*
прым. – *прыметнік*
прыназ. – *прыназоўнік*
прысл. – *прыслоўе*
прэдык. – *прэдыкатыў*
усеч. – *усечаны*
устар. – *устарэлае*
ф. – *форма*
часц. – *часціца*
экспр. – *экспрэсіўнае*

# ЛЕКСІКА

## А

**АБЫЛЕ́ШЧО**, *нескл.* Абы-што, глупства. *Не говоры абылешчо проціў ночы.*

**АБЫЛЕ́ЯК**, *прысл.* Дрэнна. *Як гэто можна так абылеяк скосіць участка: трава, бы грэблёнка, кругом торчыць.*

**АБЫЛЕ́ЯКІ**, *прым.* Дрэнны. *Абылеякі тронок у вілках: ек бэрэш сено, то пэрэворочваецца пласт.*

**АБЫ́ШЧО**, *прым.* Дрэнны. *Абышчо корова, зусем мало молока дае.*

**АЖЭБА́Ч**, *прысл.* Сапраўды. *Ажэбач, шчо мужчыны ўжэ вэрнуліса з заработкоў.*

**АЛЮ́ШКІ**, *выкл.* Вокліч, якім паганяюць карову. *Алюшкі, алюшкі, у хлеў!*

**АМО́**, *выкл.* Вокліч, з дапамогай якога выказваецца здзіўленне. *Амо, я і не знала, шчо цепэр аўтобуса не будзе.*

**АЎРЫ́ХЦІК**, *прысл.* Рыхтык, такі самы. *Сын аўрыхцік бы бацько: упарты, усе робіць толькі по-свойму.*

## Б

**БА**, *усеч. ф. дзеясл.* Бачыш. *Ба, колькі смородзін нарвала ў огородзі.*

**БАГА́Ч**, *м.* Агонь, жар. *Затушы багач, коб, крый Божэ, нічого не загорэлосо.*

**БАЛЕ́ЙКА**, *ж.* Невялікі бітон. *Молоко стоіць у балейцы.*

**БАЛЁН**, *м.* Надуўны шар. *Ек малые булі, то куплялі ў ганучніка за яйца балёны.*

**БА́ЛО**, *прысл.* Раней. *Бало часто булі пожары: стрэхі робілі з соломы – займэцца одна хата, і суседскіе горащь.*

**БА́РОК**, *м.* Ворчык. *Зарэ прычэплю барка до плуга і буду орацоь огорода.*

**БАТАРЭ́ЙКА**, *ж.* Кішэнны ліхтарык. *Трэба батарэйку купіць, бо ўвэчэры ў хлеў не зайці: вэльмі цемно.*

**БАЧЫНО́**, *безас.* Бачна. *Одсюль бачыно, ек едуць на Городок машыны.*

**БІРУ́ЛЬКА**, *ж.* Невялікі драўляны стрыжань у кроснах, да канцоў якога прымацоўваецца з дапамогай шнура ніт. *Бірулька трэснула, трэба вырэзаць другую.*

**БЛІЗНЮ́К**, *м.* Блізня. *Одзін блізнюк жывэ тут, а другі недзі выехаў.*

**БЛУКАНЯ́ЦЦА**, *незак., неадабр.* Блукаць. *Ці ж гэто ему трэба блуканяцца доцемна по лесі?*

**БОЛО́ТО**, *н.* Поплаў. *Цепэр раненько погналі короў на болото пасці.*

**БОНУ́ЦЬ**, *зак., экспр.* Укалоць. *От бонуў палкой пыд бок – вытрымаць неможна.*

**БО́ЎДЫР**, *м., экспр.* Няветлівы мужчына. *І шчо гэто за чоловек, просунецца, бы боўдыр, і не поздороваецца.*

**БО́ЎДЗІЛО**, *н., экспр.* Неахайны мужчына. *Ідзі пэрэпраніса, боўдзіло, а то стыдно людзей, ходзіш залеяны ўвэсь.*

**БО́ЎНАЦЦА**, *незак., экспр.* Рабіць што-небудзь упоцемках; корпацца. *Ганно, шчо ты там боўнаесса поночы, ідзі ўжэ ў хату.*

**БРАКОВА́ЦЬ**, *незак.* Нездаровіцца. *Нешчо ж ей бракуе, раз вона не можэ есці ні мясо, ні сало.*

**БРА́НКА**, *ж.* Світэр. *От звязала хорошую бранку, бы з магазіна.*

**БРА́СКАЦЬ**, *незак.* Бразгаць. *Стары, погледзі, хто там браскае дзвэрыма, мо некі злодзей ходзіць.*

**БРАЦІ́ХА**, *ж.* Братавая. *Браціху бачыла на селе.*

**БРУ́ЧКА**, *ж., устар.* Пярсцёнак. *Колісь, ек молодые ішлі до вэнца, то бручкі Ганна Хвэськова робіла з копэёк, а цепэр ужэ золотые кольца трэба.*

**БРЭХУНІ́ЛО**, *м., неадабр.* Падманшчык. *От жэ брэхуніло, ніякой совэсці не мае.*

**БРЭХУШНО́**, *ж., неадабр.* Падманшчыца. *Да гэта брэхушно ніколі праўды не скажэ.*

**БУ́КНУЦЦА**, *зак.* Стукнуцца лбамі (звычайна пра дзяцей). *Мамо, мы букнуліса лбамі, да боліць. – Нічого, до вэселля зажывэ.*

**БУЛЬБА́ТЫ**, *прым., экспр.* Лупаты. *Бульбата дзеўчына, але осеш вонэ, мо зато жонка будзе добра.*

**БУ́МКАЛО**[1], *н., экспр.* 1. Пра таго, хто надакучае размовай. *Годзі, бумкало, говорыў тэ, шчо не трэба.* 2. Радыё. *Выключ гэтэ бумкало, ужэ голова боліць.*

**БУ́МКАЛО**[2], *н.* Дзіцячая гульня: прымацаваная да акна бульбіна, якою з дапамогай доўгай ніткі стукалі па шыбе. *Мы не раз бумкало суседзям робілі ўвэчэры.*

**БУНТА́ЦЫЯ**, *ж., экспр.* Неспакой. *Дато мне трэба гэта бунтацыя?*

**БУ́НЬКА**, *ж.* 1. Бурбалка. *На водзе скачуць бунькі – будзе зноў дошч.* 2. Пухір. *Опёк руку, да онь якая бунька выскочыла.*

**БУ́РКІ,** *зб.* Пашытыя з сукна і ваціну валёнкі. *Лёгэнькіе буркі, да вэльмі хвайно ходзіць.*

**БУ́СЬКО,** *м.* Бусел. *Бусько поселіўса на Дочыніной хаці.*

**БУШЧЭНЯ́,** *н.* Бусляня. *Бушчэнята пыдрослі і ўжэ прэбуюць крыла.*

**БЫ́ТТО,** *злуч.* Быццам. *Зробіў від, бытто вон нічого не чуў і не бачыў.*

**БЫЦО́К,** *м.* Бычок. *Недаўно быцка ў калхоз здалі.*

**БЭГУ́К,** *м.* Свіны страўнік. *Бэгука не будом выкідаць, почысцім да кічука зробім.*

**БЭЗУГА́ВУ,** *прысл.* Бесперапынна. *Ніяк не ўтаймуюцца нашые суседзі, бэзугаву сварацца.*

**БЭРЭ́МОК,** *м.* Абярэмак. *Бэрэмок дроў прынёс до грубы.*

**БЭСПЭРЭ́СТАНКУ,** *прысл.* Бесперапынна. *Бэспэрэстанку снег ідзе.*

**БЭСПШЭ́РВЫ,** *прысл.* Бесперапынна. *Як жэ ты не будзеш кашляць, ек бэспшэрвы курыш.*

# В

**ВАЖКІ́,** *прым.* Цяжкі. *Важкі мэшок, ледзь прынёс.*

**ВАКУ́ЛА,** *аг., пагардл.* 1. Не па надвор'і цёпла апрануты чалавек. *Шчо ты, бы тая вакула, наодзеваўса, то ж жарко цепэр.* 2. Неахайны. *Куды ты, вакула, сунешса ў грязных чоботах у хату?* 3. Непаваротлівы. *Не стой, бы вакула, бо не ўспеем роботу зробіць.*

**ВА́ЎКА,** *ж.* Невялікая рана; балячка. *Пэрэвязаў ваўку на пальцы бінтом.*

**ВЕ́КО,** *н.* Накрыўка ў скрыні. *Осцерожно, гледзі, коб веко на голову не ўпало.*

**ВЕ́СІЦЬ,** *незак.* Вісіць. *Ручнік на гвоздку весіць.*

**ВІД,** *м.* Твар. *Трэба трохі від выцерці, а то стыдно людзей – бы з пэкла вылезла.*

**ВІЛКІ́,** *мн.* Вілы. *Вілкі не забыліса покласці на воз?*

**ВІРО́ТНЫ,** *прым.* Непаслухмяны, кручаны. *Такэ ўжэ віротнэ дзіця, шчо і мінуты не можэ поседзець на месці.*

**ВІШ,** *м.* Сухая няскошаная трава. *Колёснік вішу накосіў – будзе чым корову пыдсцілаць.*

**ВІШНЁЎКА,** *ж.* Вішнёвая наліўка. *Вішнёўка забродзіла ў графіні.*

**ВО́ЖКІ,** *мн.* Лейцы. *Поцягні трохі на себэ вожкі, бо зарэ конь уедзе ў канаву.*

**ВОЛО́КА**, *ж.* Абора. *Постола волокой прывязвалі до ногі.*

**ВОЛО́ШНЯ**, *ж.* Лёска. *Гэто тонкая волошня, кожушок можэ ее пэрэкусіць.*

**ВОН**, *займ.* Ён. *Вон цепэр не поедзе ў лес, бо ўжэ вода розліласа кругом.*

**ВО́НПІЦЬ**, *незак.* Баяцца, стрымліваццa. *Довэлосо ўсыпаць добрэ паском, то цепэр мо трохі будзе вонпіць.*

**ВОРКОТА́**, *аг., экспр.* Той, хто часта выяўляе сваё незадавальненне, папракае каго-небудзь. *Я з гэтой воркотой не хочу ніякого дзела маць: надоесць так, шчо хоць ты ўцекай.*

**ВОРОЦІ́ЛО ВЭЛІКЭ**, *н.* Навой. *Учора навілі основу на вэлікэ вороціло.*

**ВОРОЦІ́ЛО МАЛЭ**, *н.* Валік у кроснах, на які намотваецца вытканы выраб. *Пора ўжэ зрэзваць з малого вороціла ручнікі.*

**ВОРУШЫ́ЦЦА**, *незак.* Яшчэ мець сілу. *Дзед трохі ворушыцца, помагае сее-тэе по хазяйству.*

**ВОЎКОБОЯ́НЫ**, *прым., экспр.* Баязлівы. *От воўкобояны, увэчэры з хаты дажэ на двор боіцца выці.*

**ВОШЧА́НКА**, *ж.* Цэлая, пафарбаваная ў чырвоны колер шкарлупіна яйка, запоўненая праз вузенькую адтуліну расплаўленым воскам. *На вэліконне хлопцы робілі вошчанку, шчоб больш еец набіць.*

**ВУ́ДКА**, *ж.* Вуда. *Пойду з вудкой на канаву, мо неку рыбіну поймаю.*

**ВУЖЫ́ШЧЭ**, *н.* Доўгі кавалак тоўстай вяроўкі. *Подай вужышчэ на рубэль, будзем сено ўціскаць на возі.*

**ВУ́ТВА**, *ж.* Качка. *Важко годоваць вутвы, ек нема блізко воды.*

**ВУЧЫ́ЦЕЛЬ**, *ж.* Настаўнік. *Цепэр у нас другі вучыцель по гісторыі.*

**ВЫБІРА́ЦЬ**, *незак.* Збіраць за плугам бульбу. *Скоро будом выбіраць бульбу.*

**ВЫ́БРАЦЬ**, *зак.* Звязаць. *У Павы до ўсёго рукі здатные, такую хорошую выбрала бранку.*

**ВЫ́БІЦЬ**[1], *зак.* Адмераць. *Вэльмі далеко от села выбілі соткі.*

**ВЫ́БІЦЬ**[2], *зак.* З дапамогай спецыяльнага прыстасавання зрабіць на белай тканіне ўзоры. *Выбітые фіранкі на вокнах весяць.*

**ВЫ́ВЭРНУЦЬ**, *зак.* Вылічыць. *Вывэрнулі грошы з получкі, а за шчо – не знаю.*

**ВЫ́ГАНІЦЬ**, *зак.* Выказаць каму-небудзь усё тое, што пра яго думаеш; насварыцца. *Учора я добрэ выганіў гэтого заблуду, то вон точно тут больш не появіцца.*

**ВЫ́ЖАРЫЦЬ**, *зак., экспр.* 1. Набіць. *Не можна нічого загадаць гэтому трэпутню, дато я выжарыла добрэ его.* 2. Апячы крапівою. *Ах ты, негодзяшчы, зарэ ек вырву кропівіну, то я цебэ выжару.*

**ВЫ́ЗУБРЫЦЬ**, *зак., экспр.* Насварыцца. *Добрэ, шчо ты вызубрыў гэтого злодзея: ні земля его не накорміць, ні вода не напоіць.*

**ВЫКАБЭ́ЛЬВАЦЦА**, *незак., экспр.* Задавацца. *Купіў нового ровэра, то ўжэ выкабэльваецца.*

**ВЫ́КАНДЗІЦЬ**, *зак., экспр.* Выпрасіць. *Быў у мэне такі хорошы вытканы ручнік, то сестра выкандзіла его.*

**ВЫ́КЛУБІЦЦА**, *зак.* Стаць выпуклым; скрывіцца. *Выклубілася сцена ў хлеве.*

**ВЫ́КОШКАЦЦА**, *зак.* Выздаравець, ачуняць. *Попохворэла моцно Оля, але, слава Богу, сяк-так выкошкалася.*

**ВЫКРО́П**, *м.* Кроп. *Выкроп зусем на градцы осыпаўса.*

**ВЫ́ЛІЎКА**, *ж.* Шуфлік для вылівання вады з лодкі. *І хто гэто вырэзаў такую здатную выліўку?*

**ВЫ́ПРОВАДЗІЦЬ**, *зак.* Адправіць. *Зарэ выпроваджу дзецей у школу і буду свінней догледаць.*

**ВЫ́ПУСТОК**, *м., неадабр.* Дрэнны, пусты чалавек. *І ў кого гэты выпусток удаўса? На одной шкодзі жывэ.*

**ВЫ́РАЧЫЦЦА**, *зак., экспр.* Моцна раззлавацца. *Я ж стараласа спокойно говорыць, а вон ек вырачыцца проціў мэне.*

**ВЫ́РОБІЦЬ**, *зак.* Вярнуць выдаткі. *Грошы потрачаные на цепліцу ўжэ выробіліса.*

**ВЫ́РОБІЦЦА**, *зак.* Стаць прывабным, папрыгажэць. *Так выробіласа Антосёва дочка, шчо неможна познаць.*

**ВЫ́САДОК**, *м.* Высаджаны караняплод на насенне. *Зобрала з высадкоў насенне буракоў.*

**ВЫ́СЕКАЦЬ**, *зак.* Высмаркацца. *Высекай, дочэнька, нос, а то людзі будуць з цебэ смэяцца.*

**ВЫ́СЕКЦІ**, *зак., экспр.* Моцна набіць (звычайна пра дзіця). *Пэрэстань плакаць, бо зарэ высеку добрэ, то ты ў мэне полепшаеш.*

**ВЫ́СПОВЭДАЦЬ**, *зак.* Насварыцца. *Як гэто Сцепан пошкодоваў даць нам косу, пойду я добрэ высповэдаю его.*

**ВЫ́СТРАШЫЦЬ**, *зак.* Напалохаць. *Ты мэне не выстрашыш, бэз цебэ я точно не пропаду.*

**ВЫ́СЦЯЖЫЦЦА**, *зак., экспр.* Выправіцца ў дарогу. *Куды гэто ты высцяжыўса проціў ночы?*

**ВЫ́ТНУЦЬ**, *зак., экспр.* Выцяць. *Моўчы, бо ек вытну добрэ, то ўспокоісса.*

**ВЫ́ТНУЦЦА**, *зак.* Моцна стукнуцца аб што-небудзь. *Зачэпіўса за пэрэкладзіну ў дзвэрах да так вытнуўса головой, шчо неможна вытрымаць, гэтак боліць.*

**ВЫ́ТРЭБОВАЦЬ**, *зак.* Займець. *Вытрэбоваў спраўку, шчо роботаў у колхозі после войны.*

**ВЫ́ХАРАШАЦЬ**, *зак.* Кастрыраваць (звычайна парасят). *Позові Івана, нехай выхарашае поросят, бо попэрэростаюць.*

**ВЫ́ХВАЦЕНЬ**, *м.* Тоўсты блін з хлебнага цеста. *Ек цеста трохі оставалосо после хлеба, то маці выхватня пэкла.*

**ВЫ́ЦЕПНУЦЬ**, *зак.* Вытрасці. *Выцепні просцілку да занесі ў хату.*

**ВЫ́ЦІ**, *зак.* Выйсці. *Заблудзіўса ў лесі і не могу выці на дорогу.*

**ВЫ́ЦЫГАНІЦЬ**, *зак., экспр.* Тое, што і *выкандзіць.*

**ВЫЦЯ́ГАНКА**, *ж.* Саматканая посцілка з рознакаляровымі ўзорамі. *Над выцяганкой трэба попокорпець: усе цвэтные ніткі закладаюцца ў основу пальцамі.*

**ВЫ́ШКАРОК**, *м.* Скварка. *А вышкаркі чого не хочэш есці?*

**ВЫ́ШЧЭЙ**, *прысл.* Вышэй. *Трэба было вышчэй дошку прыбіць.*

**ВЫШЧЭРА́ЦЬ**, *незак., экспр.* Паказваць (язык, зубы). *Пэрэстань вышчэраць язык, бо страпкачом получыш.*

**ВЫ́ШЧЭРКА**, *ж.* Той, хто шчэрыць зубы. *І ў кого вона ўдаласа – гэта вышчэрка? Бэз конца зубы звэрху.*

**ВЫ́ШЧЭРЫЦЬ**, *зак.* Агаліць. *Да к чому твоя гэта мода: вышчэрыла грудзі і ходзіш пэрэд людзьмі.*

**В'ЮРО́К**, *м.* Вірок. *Ек кросна ткалі, то в'юрком змотвалі ніткі ў клубок, бо руку можна было шчохаць.*

**ВЭДЛУ́Х**, *прысл.* У параўнанні. *Вэдлух той сапачкі, шчо зробіў быў Сцепан, гэта зусем абылешчо.*

**ВЭЛІ́КОННЕ**, *н.* Вялікдзень. *На вэліконне стараліса купіць дзецям новую одзежу.*

**ВЭРХ**, *м.* Вяршкі, смятана. *Вэрх трэба познімаць у глечыках, да масло зоб'ём к недзелі.*

**ВЭРХОВО́Д**, *м.* Маленькая рыба, якая плавае каля паверхні вады. *Вэрховоды зусем кэле бэрэга плаваюць.*

**ВЭРХОЎЕ́**, *н.* Сена з самага верху стажка. *Не захочэ корова есці гэтэ вэрхоўе.*

**ВЭРЧ**, *м.* Лазовая кара для пляцення лапцей, скручаная ў выглядзе васьмёркі. *Бало лозу дралі, скручвалі ее ў вэрч і сушылі.*

**ВЭСЕ́ЛЬНІК**, *м.* Ежа з вясельнага стала (звычайна кандытарскія вырабы). *Маці смачного вэсельніка прынесла.*

**ВЭ́ШКАЦЦА**, *незак.* Валаводзіцца, вазіцца. *Не буду я з гэтой дробной рыбой вэшкацца, оддам ее коту.*

# Г

**ГА́ВЭЗ,** *м.* Жывакост. *По гавэз для свінней ездзілі аж у лес.*

**ГА́ЛЬКА**, *ж.* Ніжняя спадніца, абшытая карункамі. *У цебэ гальку з-пыд споніцы бачыно.*

**ГАЛЯ́ЦЬ**, *незак., неадабр.* 1. Бегаць. *Пэрэстань галяць, бо шчэ голову скруціш.* 2. Хадзіць без справы. *І дзе можна галяць увэсь дзень? Нічого ему не трэба робіць.*

**ГАПЭ́ЛЬКА**, *ж.* Гаплік. *Прышыла гапэльку до бэзрукаўкі, коб не рошпільваласа.*

**ГА́РАХІ**, *мн.* Кучаравыя або завітыя валасы. *Навіла гарахі, шчо я цебэ і не одразу познала.*

**ГАРАХОВА́НЫ**, *прым.* Кучаравы. *А чые гэто дзіця такэ гарахованэ?*

**ГІЛЁВА́ЦЬ**, *незак.* Бегчы, перавальваючыся з боку на бок (звычайна пра карову). *От проціўная корова, зноў погілёвала до чужых соток.*

**ГІ́НДЗЕЙ**, *прысл.* У іншым месцы. *Погледзі, мо недзі гіндзей положыў шыло, бо ў шуплядзі нема.*

**ГІ́НШЭ**, *займ.* Іншае. *Мо коб гіншэ ўзяў вэдро.*

**ГІЧ**, *м.* Бацвінне. *Ездзіла ровэром на соткі, наламала гічу поўны кулёвік.*

**ГІ́ЧКА**, *ж.* Канцавая частка завязанага мяха. *Бэры мэшка за гічку, так зручней тобе будзе несці.*

**ГЛАДЫ́ШКА**, *ж.* Гладыш. *Гладышка з молоком стоіць у лёху.*

**ГЛІ́ЗЯВЫ**, *прым.* Недапечаны. *Спэкла хлеб, але несмачны, глізявы получыўса.*

**ГНЕНУ́ЦЬ**, *зак., экспр.* Моцна ўдарыць. *Отстань од мэне, бо зарэ гнену гэтым друком.*

**ГОЛЕ́ГОВАЦЬ**, *незак.* Сябраваць. *Воны ўжэ сейчас не голегуюць.*

**ГО́ЛКА**, *ж.* Іголка. *Ужэ ў мэне вочы, бы ў куры слепой, – не могу нітку ў голку засунуць.*

**ГОЛОЦУ́ЦЫ**, *прым.* Голы (звычайна пра дзіця). *Не ходзі голоцуцы, а то захворэеш.*

**ГО́НКА**, *ж.* Плыт. *Чотэры гонкі дзерэва по рэццэ прыгнаў.*

**ГОРОВА́ЦЬ**, *незак.* Многа працаваць. *Молодые былі, то горовалі немало: трэба было дзецей пыдымаць на ногі.*

**ГОРО́ДЗЕЦ**, *м.* Агародчык. *І за хлевом невэлікі городзец е.*

**ГОРУ́ШЧЫ**, *прым.* Працавіты. *Слава Богу, горушчы зяць попаўса, бэз роботы не поседзіць.*

**ГОРЭ́НІЦЬ**, *незак.* Гарчэць. *Нашатковала капусты, але нешчо, мабыць, не так зробіла, бо горэніць.*

**ГОСТРОВА́ТЫ**, *прым.* Пра чалавека з вузкімі плячамі, ху́дым выцягнутым тварам. *Я знаю гэту жонку, вона такая худая, гостроватая.*

**ГРАЗО́ТА**, *ж., экспр.* Гразь. *Гразота на дворэ – score неможна ногі выцягнуць.*

**ГРА́НКА**, *ж.* Баразна. *Зранку выгрэбла тры гранкі бульбы кэле хаты.*

**ГРУМЕ́ЧАЦЬ**, *незак.* Грэбаваць. *Да не грумечайце, прыходзьце до нас у госці.*

**ГРЭБЛЁНКА**, *ж.* Грэбень. 1. Грэбэнь для апрацоўкі мычак. *І мой дзед колісь вырэзваў грэблёнкі, якімі чэсалі мычкі.* 2. Грэбнепадобная прылада для збірання чарніц. *Грэблёнкой можна скоро збіраць чэрніцы, але вэльмі лісця багато зрываецца.*

**ГРЭБЭНЕ́Ц**, *м.* Грабеньчык. *Косы грэбэнцэм прычэсала.*

**ГРЭ́БЭНЬ**, *м.* Прасніца. *Неколі з грэбэнем ходзіла до суседкі, дзе збіраліса і другіе жонкі, да вэсело было: разом пралі, а часом і сповалі.*

**ГРЭБЦІ́**, *незак.* Тое, што і *выбіраць.*

**ГУБА́**, *ж.* 1. Частка асновы. *Учора чотэры губы насновала: хочу выткаць намэткі.* 2. Кавалак саматканага вырабу. *Од бабы осталаса губа полотна.*

**ГУБА́Ч**, *м., незадав.* 1 Зварот да дзіцяці, якое плача. *Суціхні, губач, надоеў ужэ з своім плачэм.* 2. Мужчына з тоўстымі губамі. *Шчэ і гэты губач пэрэбірае дзёўкамі.*

**ГУ́БЭЛЬ**, *м.* Тое, што і *губач.*

**ГУЗЫ́Р**, *м.* Камель. *Кладзі дзерэво гузыром до плота, так будзе спраўней.*

**ГУТАТА́ЦЬ**, *незак.* Гушкаць. *Не плач, сейчас я сяду, а ты мне станеш на ногу, і я цебе буду гутатаць.*

**ГУ́ХНУЦЦА**, *зак., экспр.* Моцна ўдарыцца пры падзенні. *Злазіў з воза з сеном, не ўдзержаўса і гухнуўса об землю.*

**ГЭ**, *займ.* Гэтак. *Ці ж то гэ можна робіць?*

**ГЭ́НДЭЛЬ**, *м.* Якая-небудзь справа. *Не хочу я ніякого з ім гэндлю маць.*

**ГЭ́БЫ**, *часц.* Быццам. *Прышоў з арміі, да гэбы не той хлопэц стаў: посправўнеў, порозумнеў.*

**ГЭ́СКА,** *ж.* Гестка. *Гэску ў споніцу ўшыла, так трохі хорошч.*

**ГЭ́ТТЫ**, *прысл.* Тут. *Гэтты дрова складом.*

# Д

**ДА́ТО**, *часц.* Гэта. *Дато я буду ждаць, покуль вон надумаецца мне помогці ?*

**ДВОЯ́Н**, *м., экспр.* Двойка. *Зноў двояна ў дзённіку прынёс?*

**ДЗВЭ́РЦЫ**, *мн.* Веснічкі. *Зачыняй дзвэрцы на зашчэпку, бо можэ свіння чужая залезці ў город.*

**ДЗЕ́ЖКА**, *ж.* Дзяжа. *Цепэр хлеба не пэком, то дзежка недзі на хаці валяецца.*

**ДЗЕРЖА́ЛНО**, *н.* Тронкі. *Дзержално трэснуло ў вілках.*

**ДЗЕРУ́ГА**, *ж.* 1. Навалочка. *Попрасовала дзеругі на подушкі.* 2. Насыпка. *Пух вылазіць з дзеругі.*

**ДЗЕРЭВІ́НА**, *ж.* Бервяно. *Шчэ моцная дзерэвіна.*

**ДЗЕ́РЭВО**, *н.* Дрэва. *Здаецца, недаўно садзілі дзерэво кэле хлева, а ўжэ выросло вэлікэ.*

**ДЗЕЎЗНО́**, *ж., неадабр.* Дзяўчына. *Як тобе, дзеўзно, не стыдно: столькі роботы, а ты лежыш до поўдня.*

**ДЗЕЎЧУ́Р**, *м., экспр.* Хлопчык, які сябруе з дзяўчатамі. *Дзеўчур з дзёўчатамі грае ў мяча.*

**ДЗІВОЛЮ́ДДЗЕ**, *н., экспр.* Тое, што выклікае здзіўленне, насмешку. *Гэто ж суседзі шчэпіліса біцца на вэселлі да такого дзіволюддзя наробілі.*

**ДЗІ́ВЭР**, *м.* Мужаў брат. *Часом дзівэр прыходзіць до нас.*

**ДЗІРКОВА́НЫ**, *прым.* Дзіравы. *Дзіркованы чыгун, трэба выкінуць его.*

**ДЗЮДЗЮ́РКАЦЬ**, *незак.* Пра дзіця, якое толькі вучыцца гаварыць. *Малэ ўсе нешчо дзюдзюркае, але шчо вонэ хочэ сказаць – важко розобраццa.*

**ДЗЯ́ЛКА**, *ж.* Участак зямлі. *У гэтом году мы вэлікую дзялку буракамі засадзілі.*

**ДЗЯ́ННА**, *ж.* Дзядзькава жонка. *Одкуль вы, дзянно, ідзеце? Мо до сына ходзілі?*

**ДНЁЎКА**, *ж.* Працадзень. *Пойду заўтра ў калхоз на роботу, мо брыгадзер днёўку запішэ.*

**ДОБРА́ЦЬ**, *зак.* Выбраць. *Не могуць свойму сыну невестку добраць: та такая, та сякая.*

**ДОГЛЕДА́ЦЬ**, *незак.* Карміць жывёлу. *Мо ты, стары, догледаў свінней?*

**ДОГОДЗІ́ЦЬ**, *зак., экспр.* Набіць. *Нехто догодзіў гэтому трэпутню, да цепэр ходзіць з пыдбітымі вочамі.*

**ДОЛАДУ́**, *прысл.* Па-гаспадарску. *Коб вы бачылі, як Паўло доладу ўсе поробіў у своёй хаці.*

**ДОЛЯГА́ЦЬ**, *незак.* Нездаровіцца. *Нешчо ж ему долягае, раз так схуднеў.*

**ДОЛЯГЛІ́ВОСЦЬ**, *ж.* Прыправа. *Зварыла холодзіло, але не вельмі смачнэ: мабыць, некіх доляглівосцей не хватае.*

**ДОРОГУ́ША**, *ж., экспр.* Дарагая. *А-а-а, моя дорогуша, ты думала гэто лёгко ўвэсь дзень сапачкой попомахаць.*

**ДОРО́ЖКА**, *ж.* Прадаўгаватая сурвэтка. *Знарок дорожку на дзіван вышыла.*

**ДОСТА́ЦЦА**, *зак.* Дабрацца. *І як гэто достацца до Горыня?*

**ДОЎБЭ́ШКА**, *ж., груб.* Галава. *Дурная твоя доўбэшка. Ці ты не бачыш, шчо робіш?*

**ДОЎМЕ́ЦЦА**, *зак., экспр.* Дадумацца. *І як гэто ты доўмеўса купіць такіе абылеякіе чэрэвікі?*

**ДОЎНА́ЦЬ**, *незак., экспр.* Папракаць, павучаць каго-небудзь. *Пэрэстань доўнаць! Надоело цебэ ўжэ слухаць.*

**ДРАБІ́НА**, *ж.* Лесвіца. *Гледзі, коб драбіна не посунуласа, то ўпадзеш.*

**ДРА́БЫ**, *мн.* Драбіны ў возе. *Прывёз трохі ў драбах сена.*

**ДРУГЭ́**, 1. *лічэбн.* Другое. *Подай мне і другэ вэдро сюды.* 2. *прым.* Не гэта, іншае. *Прынесі мне другэ вэсло, бо гэтэ маловатэ.*

**ДРЫГЛЁВА́ЦЬ**, *незак.* Вывозіць павалены лес на месца пагрузкі. *Вэсь дзень дрыглёвалі лес.*

**ДУБО́К**, *м.* Лодка. *Нехто ў дубку рэку пэрэездзжае.*

**ДУНДУ́К**, *м., неадабр.* Пра няграматнага чалавека. *А куды гэты дундук поступіць, ек вон не знае, колькі будзе два плюс два.*

**ДУРАЛЕ́Й**, *м. неадабр.* Дурань. *От дуралей, полез не ў свое дзело, то цепэр мае клопот.*

**ДУРНІ́ЦА**, *ж.* Нешта несур'ёзнае; глупства. *Не займайса дурніцой, а давай за роботу бэрыса.*

**ДУХВА́ЦЬ**, *незак.* Адчуваць. *Гледзі, ек духваеш, шчо хваціць сілы, то можна будзе з'ездзіць у Столін до ўрача.*

**ДУ́ЦЦА**, *незак., экспр.* Многа працаваць. *Кажды год трэба было дуцца на Сібіры.*

**ДЭЙ**, *злуч.* Дый. *Роблю сено ў лесі дэй слухаю, як хорошэ пташкі споюць.*

## Е

Е, *усеч. ф. дзеясл.* Ёсць. *Не знаеце, е ў магазіні хлеб?*

**Е́ЗДЖАЛКО**, *н.* Дзіцячая гульня: адмыслова загнутым канцом кавалка дроту прыводзіцца ў рух невялікі вобад. *Мо цепэр дзеці і не знаюць, шчо такэ езджалко.*

**ЕЙЦЭ́**, *н.* Яйка. *Кура ўчора ейцэ знесла.*

**ЕКБА́Ч**, *прысл.* Хутка. *Екбач доехалі до Бэрэжного.*

**Е́НЧЫЦЬ**, *незак.* 1. Скуголіць. *Ідзіно погледзі на двор, нешчо собака цэлы ранок енчыць.* 2. Плакаць. *Пэрэстань енчыць, бо зарэ возьму паска да шчэ добрэ добаўлю.*

**ЕРЭПЕ́НІЦЦА**, *незак., груб.* Злавацца, распаляцца, не згаджацца з кім-небудзь. *Чого ты ўжэ ерэпенісса, не можна тобе і слова сказаць.*

## Ё

**ЁРГАЦЬ**, *незак.* Торкаць. *Скорэй цягні вудку, ужэ поплавок ёргае.*

## Ж

**ЖА́БОР**, *м.* Стаячая, парослая зеллем вада. *Не лезь у жабор, бо будуць ногі чэсацца.*

**ЖА́ГА**, *ж.* Смага. *Дайце воды напіцца: не могу вытрымаць, гэтак жага пэчэ.*

**ЖА́ГКО**, *прысл.* Вельмі страшна. *Умэрла суседка, да неяк жагко, боюса одна ўночэ ў хаці оставацца.*

**ЖАРАЛО́**, *н.* Джала. *Пчола мэне ўкусіла, поможы выняць жарало.*

**ЖБУ́РНУЦЬ**, *зак., экспр.* З сілай паваліць каго-небудзь; шпурнуць. *Хоцеў померацца сілой зо мной, то я его жбурнуў на землю.*

**ЖМУРЭ́ЦЬ**, *незак.* Пракісаць. *Докуль гэто молоко будзе стояць, вонэ ж ужэ жмурыць.*

**ЖО́НКА**, *ж.* Жанчына. *Я гэту жонку не познала, мо нека прыезджая.*

**ЖОНО́ЧЫНА**, *ж.* Жанчына. *А вона, стара жоночына, тожэ посунуласа на вэселле.*

**ЖОЎТЛЯ́К**, *м.* Насенны агурок. *Семэна повыбірала з жоўтлякоў.*

**ЖУ́ЖЭЛЬ**, *ж.* Падгарэлая страва. *Поставіла кашу варыцца на пліту і забыласа – на жужэль спаліла.*

**ЖУ́РКАЛО**, *н.* Дзіцячая гульня: моцна закручаная нітка, прасунутая скрозь адтуліны гузіка. *Ек малые булі, то забаўляліса з журкалом.*

**ЖЫВОЛУ́П**, *м., неадабр.* 1. Той, хто хутка зношвае або рве адзенне ці абутак. *Зусем недаўно купілі штаны, а вон, жыволуп, ужэ порваў іх.* 2. Жывадзёр. *Гэты жыволуп раз-два свінню заколе.*

**ЖЫ́ЖА**, *ж., дзіцяч.* Агонь. *Не ідзі, сыночок, до грубы, бо там жыжа.*

**ЖЫ́ЛАВЫ**, *прым.* 1. Дужы. *Невэлікі ростом хлопэц, а такі жылавы.* 2. Цягавіты. *Васіль – жылавы хлопэц, немало ему трэба роботы попоробіць.*

**ЖЫРО́ЎКА**, *ж.* Лямпачка для кішэннага ліхтарыка. *Недаўно купіў новую жыроўку, а ўжэ пэрэгорэла.*

**ЖЫ́ТКА**, *ж.* Жыццё. *Яка доля, така і воля; яка жытка, така і бытка.*

**ЖЭ́ЎЛЯЦЬ**, *незак.* Тлець. *Дроў сырых наложыла ў печ, то ледзь жэўляюць.*

## З

**ЗАБА́ВІЦЦА**, *зак.* Затрымацца. *У сына трохі забавіласа.*

**ЗА́ВАЛКА**, *ж.* 1. Хлясцік. *Завалка одорваласа ў палітоні.* 2. Засаўка. *Зачыні дзвэры на завалку, бо худоба ўлезе ў город.*

**ЗАВО́З**, *м.* Чарга людзей каля млына. *Цепэр вэлікі завоз кэле мліна, але шчэ не почалі молоць муку.*

**ЗАГРУБЕ́ЦЬ**, *зак.* Зацяжарыць. *Колісь старые людзі говорылі, шчо жонка загрубела, або чэрэватая ходзіць.*

**ЗАГОЛОВІ́ЦЦА**, *зак., лаянк.* Пажаданне нядобрага. *Шчо б ты заголовіўса, ек тобе загадаць нічого неможна.*

**ЗАДА́ЎНІЦЦА**, *зак.* Зацягнуцца. *Задаўніласа хвороба, а цепэр важко лехчыць.*

**ЗАДНО́**, *прысл.* Часта; увесь час. *Задно дзеці помагаюць, ек шчо трэба.*

**ЗА́ЗУБЭЦ**, *м.* Кручок для лоўлі рыбы. *Малым зазубцэм вэлікого кожушка не поймаеш.*

**ЗАКАЛЗА́ЦЬ**, *зак.* Зацугляць. *Конь молоды, трэба его закалзаць.*

**ЗАКАРВА́ШЫ**, *мн.* Складкі на целе чалавека. *Усе плачэ, шчо вон худы, а сам онь якіе закарвашы наеў.*

**ЗАКАЧА́ЦЦА**, *зак., лаянк.* Пажаданне нядобрага. *От шчоб ты закачаўса, обэшчаў прыехаць, і нема.*

**ЗА́КЛАД**, *м.* Батарэйка для кішэннага ліхтарыка. *Верэ, ек пойдзеш у лаўку, то погледзі, ці е заклады, бо ўжэ старые ніяк не годзяцца.*

**ЗАКЛЯ́КНУЦЬ**, *зак.* Здранцвець. *Заклаклі ногі – нельга з табурэткі ўстаць.*

**ЗАКРЫ́ЛІНА**, *ж.* Вузкая дошка на шчыце будынка, да якой прылягае ліст шыферу або іншага дахавага пакрыцця. *Погнілі закрыліны на шчыце, ужэ трэба новые прыбіваць.*

**ЗАКУЦЭ́ЙНЫ**, *прым.* Дамасед. *Не седзі, бы закуцэйная, дома, пройдзіс з дзёўчатамі ў клуб.*

**ЗАЛАДО́М**, *прысл.* Запар, засаб. *Рві моркву заладом, вона ўжэ больша не выросце.*

**ЗАЛЕ́ЯЦЬ**, *зак.* Зашмальцаваць. *І дзе гэто, Пэтро, ты так залеяў рубашку?*

**ЗАЛЁПА**, *аг., незадав.* Пра неахайнага чалавека. *За якую б ты роботу не ўзяўса, залёпа, кругом гразь розвэдзеш.*

**ЗАЛЁПАНЫ**, *прым.* Брудны. *Ходзяць, не пэрэобуваючыса, уся пыдлога залёпана.*

**ЗАЛЯГА́ЦЦА**, *незак.* Моцна смяяцца. *Я ему росказваю, а вон аж залягаецца, ледзь не поўзае од смеху.*

**ЗАНЯ́ЦЬ**, *зак.* Загаварыць. *Я ішла з цэрквы, да заняла мэне Паўлінка, почала росказваць про свою бэду.*

**ЗА́ПІНКА**, *ж.* Фартух, якім карыстаюцца падчас працы. *Нарвала поўную запінку зелля для свінней.*

**ЗАПІРЭ́НЬКА**, *ж.* Прыстасаванне для фіксацыі валіка ў кроснах, на які намотваецца вытканы выраб. *От хорошую запірэньку выстругаў Міцё.*

**ЗАПЫТА́ЦЬ**, *зак.* Пакаштаваць. *Запытай, якая смачна груша.*

**ЗА́РЭ**, *прысл.* Зараз. *Не зашчэпвайце дзвэры, зарэ я прыду.*

**ЗА́СТОВАЦЬ**, *незак.* Зацямняць. *Одыдзі од окна, не застуй, бо не могу нітку ў іголку ўцягнуць.*

**ЗАСТОГНЕ́ЦЬ**, *зак., лаянк.* Пажаданне нядобрага. *От, шчоб ты застогнеў, ек ты ўсю градку вытоптаў.*

**ЗАСТОРО́НОК**, *м.* Дашчаная клетка ў хляве, у якую кладуць сена карове. *Стары, кінь трохі корові сена ў засторонок.*

**ЗАСТУ́КАНКІ**, *мн.* Хованкі. *Дзеці ў застуканкі граюць.*

**ЗА́ТКАЛО**, *н.* Корак. *Учора лежало заткало од пляшкі ў шкафчыку, а зарэ ек у воду кануло.*

**ЗАТО́Б**, *часц.* Ледзь. *Затоб не ўспеў на аўтобус, неяк вон цепэр раней поехаў.*

**ЗАТО́ЎКА**, *ж.* Здор. *Свіння жырная, то затоўкі багато было.*

**ЗАТЫ́ЛОК**, *м.* Клінок, з дапамогай якога мацуецца каса да кассе. *То ж зусем абылеякі затылок: коса не дзержыцца.*

**ЗА́ЎШЭ**, *прысл.* Заўсёды. *Заўшэ дзеці называлі бацька і мацеру толькі на Вы.*

**ЗАХО́Д**, *м., устар.* Месца летняй стаянкі жывёлы (пераважна кароў). *Бало коровы далеко стоялі ў заходзі, але трэба было носіць одтуль молоко кажды дзень.*

**ЗАХОДЗІ́ЦЦА**, *зак.* Раскрычацца. *Гэто ж заходзіласа жонка на мэне, чого я так дзешэво порося продаў.*

**ЗА́ХРОМКА**, *ж.* Стрэмка. *Мо ты достанеш мне з пальца захромку?*

**ЗАХРОМІ́ЦЬ**, *зак.* Застраміць. *Захроміў ногу, да зробіўса нарыў.*

**ЗАЦЁНЛІВЫ**, *прым.* 1. Непаслухмяны (звычайна пра каня). *Конь зацёнліві попаўса – неможна ораць соткі.* 2. *перан.* Зацяты, упарты (пра чалавека). *Ці ж з гэтой зацёнлівой можна поговорыць? Зачыніцца ў комору і моўчыць.*

**ЗАЧАВІ́ЦЬ**, *зак.* Задушыць. *Машына куру зачавіла на дорозі.*

**ЗАШКОРУ́ЗНУЦЬ**, *дзеясл., зак.* Заскарузнуць. *Кажды дзень у земле колупаюса, ужэ рукі зашкорузлі.*

**ЗАШМОРЫ́ГАЦЬ**, *зак., экспр.* Занасіць, запэцкаць. *Зашморыгаў штаны, то бэры сам іх пэры.*

**ЗАШЧУ́РЫЦЦА**, *зак.* Змізарнець. *Мабыць, здохне наш кабанчык: зусем зашчурыўса.*

**ЗБАНДЫ́ЖЫЦЦА**, *зак., экспр.* Узабрацца. *Нема ўжэ ніяк сілы – ледзь збандыжыласа на воз.*

**ЗБЛЯ́КНУЦЬ**, *зак.* Схуднець, страціць румянец на твары. *Ганна зусем збляклa, стала непохожой сама на себэ.*

**ЗБО́ЎКНУЦЬ**, *зак.* Падняцца на паверхню вады. *Гуркі ў бочцы збоўклі да несмачные зробіліса.*

**ЗБУ́РЫЦЦА**, *зак., экспр.* Надумацца. *На дворэ такая непогодзь, а воны збурыліса ў лес іці.*

**ЗГОЛОДНЕ́ЦЬ**, *зак.* Згаладацца. *Зголоднеў за дзень бэз полудня.*

**ЗДЫ́РДЗІЦЦА**, *зак., груб.* Здохнуць. *Нешчо корова з'ела недобрэе, да чуць не здырдзіласа.*

**ЗЗА́МОЛОДУ**, *прысл.* З маладых гадоў. *Я ззамолоду бояласа холоду.*

**ЗЛА́ДЗІЦЦА**, *зак.* Дамовіцца. *Зладзіліса з хазяіном і купілі ў его короўку.*

**ЗЛІ́ГНУЦЬ**, *зак.* Паменшыцца ў сіле; спыніцца. *Поседзі ў хаці, хай трохі дошч злігне.*

**ЗЛЫГА́ЦЦА**, *зак., неадабр.* Сысціся, знайсці адзін другога. *Гэто ж злыгаліса два трутні – нічого робіць не хочуць: дай толькі выпіць да погуляць.*

**ЗНЯ́ХАЦЦА**, *зак., экспр.* Пазнаёміцца, сысціся. *І як воны зняхаліса? Але які сам, такі і крам.*

**ЗМАМАІ́ЦЦА**, *зак.* Закапрызнічаць, надзьмуцца. *А хто ее знае, чого вона змамаіласа, ей жэ важко ўгодзіць.*

**ЗМАНТРЭ́ЖЫЦЬ**, *зак.* Знішчыць. *А нашчо мне гэтые вутвы? Я іх усе змантрэжыла, бо ім не набэрэсса еды.*

**ЗМА́ХВАЦЬ**, *незак.* Быць падобным. *Толё на дзеда трохі змахвае.*

**ЗНЕМОШЧЭ́ЦЬ**, *зак.* Аслабець, знясіліцца. *Неможна познаць старого, зусем знемошчэў.*

**ЗОВІ́ЦА**, *ж.* Мужава сястра. *Зовіца прыходзіла, усе жаліласа, шчо роботы багато, а помогці нема кому.*

**ЗОГЛУМІ́ЦЬ**, *зак.* Сапсаваць. *Які там з Олеся строіцель, толькі цэглу зоглуміў.*

**ЗОГНЮСІ́ЦЬ**, *зак., экспр.* Сапсаваць. *Гэто ж толькі недаўно куртку купілі, а вон ужэ зогнюсіў ее.*

**ЗОЗУ́ЛЬКА**, *ж.* Божая кароўка. *Ек малые былі, то ўсе пыталіса ў зозулькі: зозулька, зозулька, скажы, шчо заўтра будзе – дошч ці погода?*

**ЗРО́ДУ**, *прысл.* 1. Заўсёды. *Зроду мы садзім тут бульбу.* 2. Ніколі. *Зроду я не быў за граніцэй.*

**ЗУ́БЫ**, *мн., перан.* Звязаныя кручком зубападобныя карункі, якія выкарыстоўваюцца для аздобы посцілак, настольнікаў ці ручнікоў. *Звязала недаўно зубы до просцілкі.*

**ЗЫ́РНУЦЬ**, *зак., жарт.* Украсці. *І дзе гэто ты зырнуў такую хвайную сокерку?*

**ЗЮ́ЗЯ**, *ж., дзіц.* Холад, мароз. *Давай будом опранацца, дочэнька, бо на дворэ зюзя.*

# І

**ІЦІ́**, *незак.* Ісці. *Мне ўжэ трэба іці дохаты.*

# К

**КАБА́Й**, *м.* Ухаба. *Машыны повыбівалі такіе кабае на дорозі, шчо неможна возом проехаць.*

**КАЖО́Н**, *займ.* Кожны. *Кажон свою роботу знае.*

**КАЛАМУ́ЦІЦЬ**, *незак.* Ну́дзіць. *Трэба іці до доктора: увэсь дзень голова боліць і каламуціць.*

**КАМЕ́НЬЧЫК**, *м.* Костачка. *Очышчу вішне од каменьчыкоў да буду варэнне варыць.*

**КАНА́ПА**, *ж.* Шырокая лава, звычайна з высокімі падлакотнікамі. *Канапу вынеслі з хаты, ужэ ў хлеве вона стоіць.*

**КАЦА́**, *ж.* 1. Тупы канец яйка. *Давай кацою біць яйца.* 2. Хваставая частка лодкі. *Прыкручвай матора до кацы.*

**КВАСО́К**, *м.* 1. Шчаўе. *Квасок на огородзі вырос хорошы.* 2. Страва, звараная са шчаўя. *Попрэбуй, які смачны квасок зварыла.*

**КВЕ́ТКА**, *ж.* Кветка, якую прышпільваюць маладым і іх сябрам. *Молодая прышпіліла кветку жэніху.*

**КЕ́ТЫ**, *мн.* Кеды. *Кеты на фізкультуру хай бы былі цэлые, а ты по двору галяеш кажды дзень у іх.*

**КІ́ДАЛЬНІК**, *м.* Мужчына, які ўмее класці стагі. *Трэба будзе шукаць кідальніка на сено.*

**КІРЗА́Ч**, *м.* Кірзавы бот. *Натоміла ногі ў кірзачах, ледзь прышла.*

**КІЧУ́К**, *м.* Свіны страўнік, начынены мясам з прыправамі. *Кічука шчэ не почыналі есці, недзі на хаці весіць.*

**КІЯ́Х**, *м.* Кукуруза. *Насадзіла кіяхоў по краях соток.*

**КЛАДКІ́**, *мн.* Нешырокі доўгі мост з поручнямі, зроблены з жэрдак і дошак. *Вода спала ў рэццэ, то зноў зробілі кладкі.*

**КЛЕЕ́**, *ужыв. толькі ў ф. ц.ч., адзін. л.* Кіпіць (пра вязкую вадкасць). *Ужэ варэнне клее ў місцы, можна выключаць газ.*

**КЛЕНДА́ТЫ**, *прым., пагард.* Клышаногі. *І дзе вона гэтого клендатого знайшла? Гэто ж нема на кого дзівіцца.*

**КЛІШУ́Н**, *м.* Чалавек, у якога крывіцца пры хадзе абутак. *Зноў, клішун, скрывіў чэрэвікі, нічого тобе не можна набраццa.*

**КЛЮ́БА**, *ж.* Дугападобнае папярочнае мацаванне ў сярэдзіне лодкі. *Воды нацекло ў дубок вышэй клюб.*

**КЛЯ́К**, *м.* Драўляная загатоўка для полаза. *З гэтого кляка добры полоз на сані получыцца.*

**КОВЭЗА́**, *аг., неадабр.* Румза. *Сцíхні, ковэза, бо не пойдзеш зо мною, будзеш седзець у хаці.*

**КОЕ́ШЧО,** *займ.* Нешта. *Коешчо хочу попросіць у брата.*

**КОЖУ́ШОК,** *м.* Шчупак. *Учора на вудку поймалі некалькі кожушкоў.*

**КОЗЛЯ́К,** *м.* Шампіньён. *Назбіраў раненько поўны кошэль козлякоў.*

**КО́ЛЕНШЧЫНА,** *ж.* Белая бавaўняная тканіна; бязь. *Купіла коленшчыны, мо неяк дзеругі пошыю на подушкі.*

**КОЛЁСНІК,** *м.* Воз сена або саломы. *Вэлізны колёснік сена прывэзлі.*

**КО́ЛІСЬ,** *прысл.* Некалі; раней. *Колісь молодые так часто не розводзіліса, ек цепэр.*

**КОЛО́ВЭР,** *м.* Журавель (у калодзежы). *Цепэр у селе почці нема колодзезёў з коловэром.*

**КОЛОДА́Н,** *м.* Вялікі палец. *Колодана прыціснула дзвэрамі, да пыдпух.*

**КОЛОДА́Ч,** *м.* Нож з драўлянай ручкай. *Колодачом зручней гарбузы розрэзаць.*

**КОЛО́ДЗЕЗЬ,** *м.* Калодзеж. *Трэба ўжэ чысціць колодзезя, бо вода абылеякая стала.*

**КОЛО́ШКАЦЬ,** *незак.* Размешваць. *Шчо ты там колошкаеш у вэдрэ?*

**КОЛЬБЕ́ЛЬ,** *ж.* Калыска. *Не дай Бог, як жылі раней: трэба было з кольбеллю на ўчасткі ходзіць.*

**КОЛЮ́К,** *м.* Алоэ. *Нешчо стаў засыхаць наш колюк.*

**КОМЭ́ХА,** *ж., пагард.* Непаваротлівая, неахайная жанчына. *Гэто ж такая комэха, лішні раз повэрнуцца боіцца: непрычэсаная, непэрэпранутая ўвэсь дзень ходзіць.*

**КОНШЛЯ́,** *н.* Конь. *Зажэні коншля ў хлеў, хай не мэрзне на дворэ.*

**КОПАНІ́ЦА,** *ж.* Іструмент для выдзёўбвання драўлянага карыта. *А йдзе ты цепэр ту копаніцу знайдзеш?*

**КОПЕ́ЙЧЫНА,** *ж.* Грошы. *Поедзе мой чоловек на зароботкі, мо неку копейчыну прывэзе.*

**КО́ПКА,** *ж.* 1. Выемка на сцяне печы. *Становіса ногой на копку і злазь з пэчы.* 2. Падобнае на паліцу паглыбленне ў печы, у якое кладуць дробныя прадметы. *Спічкі ў копцы лежаць.*

**КО́РМІК,** *м.* Кабан, якога кормяць на забой. *К вэліконню будом корміка біць.*

**КОРО́БКА,** *ж.* Ежа, якую свяцяць на вялікдзень у царкве. *На вэліконне ідом на ўсюночную, а ўжэ пэрэд ранком бацюшко коробкі свяціць.*

**КОРПАЕ́Ц**, *м., экспр.* Чалавек, які вельмі павольна ўсё робіць. *Чого ты, бы той корпаец, там колупаешса, пора ўжэ дохаты іці.*

**КОРЫТА́Ж**, *м., уст.* Бальнічны калідор. *Вышла на корытаж, бачу некого на каталцы вэзуць.*

**КОСЦЕРЭ́ВА**, *ж.* Курынае проса; брыца. *Ужэ зноў косцерэва росце ў огородзі.*

**КО́СЫ**, *мн.* Валасы. *Косы на голове за лето аж порыжэлі.*

**КОЎБА́К**, *м.* Высокая прычоска. *Колісь лямца пыд косы прышпільвалі, шчоб коўбак быў высокі.*

**КО́ЎЗАЛО**, *н.* Коўзанка. *Дзеці з санкамі на коўзало позбіраліса, то такі крык стоіць.*

**КОЦЁЛЦЭ**, *н.* Кольца. *Коцёлцэ ў ланцугу пэрэцерлосо.*

**КОЦІ́ЦЬ**, *незак., экспр.* Ісці. *Бачу, коціць Фэдор до Параскі.*

**КОШМА́Й**, *м., неадабр.* Мужчына з доўгімі ўскудлачанымі пасмамі валасоў. *Пыдстрыжыса, кошмай, а то ходзіш, бы опудзьвіло.*

**КОШУ́ЛЯ**, *ж.* Жаночая кофта. *Гэто мне дочка пошыла новую кошулю на свято.*

**КРА́ЙКА**, *ж.* Саматканы, звычайна ўзорысты пояс. *Раней маленькэ дзіця ўкутвалі і крайкой пэрэвязвалі.*

**КРАМІНА́**, *ж.* Крамніна. *Купіла краміны, нехай невестка мне пошые кошулю на свято.*

**КРОПІ́ЛО**, *н.* Ядахімікат, якім знішчаюць каларадскія жукі на бульбоўніку. *Без кропіла не обыдзесса, жукі з'едзяць усю бульбу.*

**КРОПІ́ВІНА**, *ж.* Форма адзіночнага ліку назоўніка *крапіва*. *Кропівіна торчыць кэле ганка, вырві ее.*

**КРУЖО́К**, *м.* Дошчачка, на якой рэжуць мяса, гародніну. *Рэж на кружку, бо спорціш стола.*

**КРУЖЫНА́ЦЬ**, *незак.* Абыходзіць, аб'язджаць. *Вода розмыла дорогу, да прышлосо кружынаць, шчоб неяк добраца дохаты.*

**КРУЦЕ́ЛІЦА**, *ж.* Мяцеліца. *Звэчора круцеліца ўзяласа.*

**КРУ́ЧАНЫ**, *прым., экспр.* Неспакойны, легкадумны чалавек. *Кручаны хлопэц, важко з такім будзе ўжыцца жонцы.*

**КРЫ́БО**, *часц.* Толькі. *Дзеткі, крыбо не розводзьце огонь у хаці, бо ўсе згорыць.*

**КРЫШАНЫ́**, *мн.* Суп, звараны з дробна парэзанай бульбы і мяса ці сала. *Наварыла крышаноў зранку, дэй поснедалі.*

**КРЭ́СЛО**, *н.* Шырынка. *Зашпілі крэсло, роззева.*

**КУБЛО́**, *н.* Гняздо. *Ластоўка зробіла кубло на шчыце хаты.*

**КУ́БЭРШТАЦЦА**, *незак., экспр.* Корпацца. *Васіль, шчо ты там кубэрштаесса, пошлі скорэй.*

**КУЛЁВІК**, *м.* Невялікі мех. *Пэрэоралі города і назбіралі цэлы кулёвік бульбы.*

**КУЛЬ**, *м.* Тоўсты сноп саломы, якою крылі дахі. *У куль звязвалі жытнюю солому.*

**КУ́МЭЛЬГОМ**, *прысл.* Вельмі хутка. *Ек почуў бацькоў голос, то кумэльгом вылецеў з хаты.*

**КУ́РКА**, *ж.* Курачка. *Толькі тры куркі вывэлосо, а остатніе ўсе пэўне́.*

**КУ́РАЧЫ**, *прым.* Курыны. *Курачы пух не годзіцца на подушкі.*

**КУРЧЭНЯ́**, *н.* Кураня. *Нечы кот занадзіўса ходзіць до нас і поўцягваў усе курчэнята.*

**КУТЫ́РГАЦЬ**, *незак.* Ісці з цяжкасцю, кульгаючы. *После хворобы сусед ледзь кутыргае.*

**КЭ́ЛЕ**, *прыназ.* Каля. *Цепло цепэр, то молодзёж кэле рэкі позбіраласа.*

**КЭ́ШКАЦЦА**, *незак.* Тое, што і *вэшкацца.*

# Л

**ЛА́НТУХ**, *м.* Старая, паношаная вопратка. *Чого ты гэтые лантухі нацягнула на себэ?*

**ЛА́ДЗІЦЦА**, *незак.* Мірыцца, жыць у згодзе. *А чого вам сварыцца? Вы ж молодые, трэба неяк ладзіцца.*

**ЛА́СІЦА**, *ж.* Наледзь на шыбе. *Мороз поробіў на вокнах ласіцы.*

**ЛЕ́ГАР**, *м.* Лага. *Положылі легарэ ў новой хаці, а зарэ трэба дошкі прыбіваць.*

**ЛЕКА́ЛО**, *н.* Пудзіла. *Роставілі лекала на огородзі, бо нема спасу, гэтак пташкі на просо лецяць.*

**ЛЕХЧЭ́ННЕ**, *н.* Лячэнне. *Прызначыла докторка некэ лехчэнне, але ці поможэ вонэ.*

**ЛЁСТОЧКА**, *ж.* Дошчачка. *Сынок, забі лёсточкой дзірку ў плоці, коб куры не вылазілі на дорогу.*

**ЛЁХ**, *м.* Лёха. *Сыночок, набэры бульбы ў лёху.*

**ЛІВО́РВЭР**, *м.* Рэвальвер. *Бачу, ідзе немэц з ліворвэром.*

**ЛІНО́К**, *м.* Лінь. *Хлопцы поймалі некolькі лінкоў.*

**ЛО́БУЗ**, *м.* Бульбоўнік. *Пора лобуз зрываць, бо ўжэ зусем посох.*

**ЛОГО́ЗІНА**, *ж.* 1. Сукаватая доўгая палка. *Бачыш гэту логозіну? Сейчас ею получыш, ек не будзеш слухацца.* 2. *аг., перан., незадав.* Высокі падлетак. *Вырасла логозіна, а вучыцца зусем не хочэ.*

**ЛО́КШЭНІНА**, *ж.* Локшына. *Трэба цепэр локшэніну зварыць з молоком.*

**ЛУ́ПЭНЬ**, *м., экспр.* Лупцоўка. *Ніяк тэбе спокойно не седзіцца, мабыць, лупня хочэш.*

**ЛУШПА́ЙКА**, *ж.* Лупіна. *Наварыла свінням лушпаёк з бульбы велізны чыгун.*

**ЛЮБО́ЦЦЕ**, *прысл.* Вельмі добра. *Цепэр людзям любоцце роботаць, не то шчо колісь: усе машыны поробяць.*

# М

**МА**, *звар.* Форма звароту да маці. *Ма, мы пойдом цепэр у магазін?*

**МА́ЗАЦЦА**, *незак.* Пра дзіця, якое лашчыцца, стараючыся выклікаць ласку ў адказ. *От мажэцца, гэто хочэ, коб дала цукэркоў.*

**МАЙНА́**, *ж.* Трава, якая расце вясною на вадзе. *Збіралі на водзе майну ў кошэль, а потом свінней кормілі.*

**МАКАЗО́Б**, *м.* Падобнае на парашок рэчыва, якое застаецца на ўнутраных сценах драўлянай пабудовы пасля тачэння іх шашалем. *Ек колісь дзіця попрэе, то пэрэсыпалі маказобом.*

**МАКО́ТРА**, *ж.* 1. Макацёр. *Макотра стоіць у сцёпцы на поліцы.* 2. *перан., экспр.* Галава. *Дурная твоя макотра, ужэ не можэш і грошы полічыць.*

**МАЛЁЎШЧЫК**, *м.* Каляровы аловак. *Покладзі малёўшчыка ў коробочку.*

**МАЛЭ́**, *прым.* Малое. *Малэ целя – продаваць покуль не будом.*

**МАРА́**, *ж.* Надакучлівы чалавек. *І чого гэта мара прычэпіласа до мэне?*

**МАХ**, *прым.* Вялікі. *Мах стожка сена наложылі.*

**МАХІ́НА**, *прым.* Вельмі вялікі. *А дуб махіна, не пыдступіцца до его.*

**МЕ́СЯЦ**, *м.* Белы хлеб, спечаны ў форме дугі, якім, жартуючы, пацвельваючыся, абменьваліся сваты на вяселлі. *У цебэ, свату, месяц трохі крывоваты, мо некая жонка косоватая пэкла.*

**МІГЛІ́ЦЬ**, *незак.* Імгліць. *Увэсь ранок дошч мігліць.*

**МІНУ́ЦІНА**, *ж.* Мінутка. *Зайдзі на мінуціну до мэне, я тобе нешчо роскажу.*

**МЛІН**, *м.* Млын. *Кончыласа мука, трэба ехаць у млін да змолоць зерно.*

**МЛІНЕ́Ц**, *м.* Блін. *Млінцоў цепэр напэкла, хай дзеці едзяць.*

**МО́ГЛІЦА**, *мн.* Могілкі. *На моглiцах капліцу зробілі.*

**МОГО́**, *займ.* Майго. *Мого коня хоцелі цыганы купіць.*

**МОЛОДЗЁЖ**, *ж., зб.* Моладзь. *Багато молодзежу повыезджало з села за гэтые годы.*

**МОЛОЧА́РНЯ**, *ж.* 1. Пункт прыёму малака ад насельніцтва. *Цепэр не трэба носіць молоко ў молочарню: чоловек пыд'езджае на фурманцы і злівае молоко ў бітоны.* 2. Памяшканне, дзе ўстаноўлены сепаратарны апарат. *Молоко звозілі ў молочарню і пэрэганялі на сепараторы.*

**МО́НА**, *прэдык.* Можна. *Цепэр мона жыць і не тужыць.*

**МО́РДА**, *ж.* Шчака. *Зуб боліць, да трохі морда пыдпухла.*

**МОРДА́Ч**, *м., груб.* Мужчына з тоўстым тварам. *Бэры сокеру, мордач, да ідзі роботай, нема чого бокі вылежваць*

**МОРКА́Ч**, *м.* Баран. *Моркачэ зноў шчэпіліса біцца.*

**МОРШЧЭ́НІК**, *м.* Маршчына. *Ты зусем молодая, у цебэ нема ні одного моршчэніка на віду.*

**МО́ТО**, *пабочн.* Можа, мабыць. *Мото, і мэншы твой сын ужэ жэніцца?*

**МОШНА́**, *ж., іран.* Вялікая колькасць грошай. *Мабыць, вона добрую мошну грошэй назбірала, бо траціць іх нема ёй куды.*

**МУЛЕ́НІК**, *м.* Мазоль. *Копаў градкі да онь якого мулeніка набіў.*

**МУРЛА́ТА**, *ж.* Бервяно, да якога прымацоўваюцца ніжнія канцы кроквы. *Цепэр мурлаты покладом і будом ужэ кроквы ставіць.*

**МУРЛА́Ч**, *м., груб.* Чалавек з тоўстым шырокім тварам. *Віктор такі мурлач стаў, шчо скоро вочэй не будзе бачыно.*

**МУСО́ВО**, *прысл.* Абавязкова. *Мусово трэба одведаць цётку ў больніцы.*

**МЫ́КАЦЬ**, *незак.* Рабіць, фармаваць мычку. *А як жэ, колісь доводзілосо робіць усякую роботу: і мычкі мыкаць да пылом дыхаць.*

**МЫЛ**, *м.* Пясок, якім занесена дно калодзежа або ракі. *Гэтулькі мылу ў колодзезі, шчо неможна вэдром воды зачэрпнуць.*

**МЫ́ЧКА**, *ж.* Прадзільнае валакно лёну, згорнутае ў скрутак. *Пэрэсталі прасці, то мое мычкі зваляліса ў хлеве, нікому непотрэбные.*

**МЭНТУ́ШКА**, *ж.* Мянташка. *Сыночок, мо ты бачыў, дзе наша мэнтушка лежыць?*

**МЭ́СТОМ**, *часц.* Быццам. *Мэстом дорогу роўнялі пэском, але зноў после дошчу нельга проехаць.*

**МЭТУША́ЦЦА**, *незак.* Мітусіцца. *Не мэтушайса пэрэд вочыма, займіс своім дзелом.*

**МЯРЭ́Ц**, *м.* Нябожчык. *Мярца з рэкі водолазы доставалі, бо вэльмі глыбокэ место было.*

## Н

**НА́БІРКА**, *ж.* Пасудзіна, у якую збіраюць ягады. *Трэба набірку прывязаць до пояса, шчоб не носіцца з ею ў руках по лесі.*

**НАБРА́ЖЫЦЦА**, *зак.* Напіцца гарэлкі, віна. *Гэто ж Фэдор з самого ранку набражыўса, бы свіння, і лежыць пыд плотом.*

**НАБРА́ЦЬ**, *зак.* Купіць. *Набрала мацер'ялу на плацце да боюса, коб маловато не было.*

**НАБУЗОВА́ЦЬ**, *зак., экспр.* Многа накласці чаго-небудзь. *Нашчо ты набузоваў столькі гарбуз? Воза поламіш.*

**НАБУХТО́РЫЦЬ**, *зак., экспр.* Многа наліць або накласці чаго-небудзь. *Нашчо ты набухторыла мне столькі крышаноў?*

**НАВЕ́К**, *прысл.* (Завязаць) моцна, туга. *Куды ты завязваеш шнурка навек, потом довэдзецца рэзаць его.*

**НА́ДЖА**, *ж.* Надзея, спадзяванне. *У нас ужэ і наджы не было, шчо сын на гэтой нідзелі прыедзе.*

**НАДОДЗЕ́ЦЬ**, *зак.* Надакучыць. *Думаеш, не надодзело кажды дзень на фэрму бегаць? Але куды дзенесса.*

**НА́ДСЫР**, *прысл.* Усмятку. *Зварыла яйца надсыр, положыла ў сумку на полудзень, а воны почавіліса.*

**НАДУБІ́ЦЬ**, *зак., экспр.* Апрануць. *Куды ты надубіў на себэ кожуха, змокрэеш увэсь.*

**НАЁ́ДОК**, *м.* Ежа. *А які з гурка наедок? Одна вода.*

**НАЖА́РЫЦЬ**, *зак.* Напаліць моцна грубу ці печ. *Нажарылі грубу – дыхаць нема чым у хаці.*

**НАЙМІТУ́З**, *прысл.* (Спаць) “валетам”. *Ложыцес наймітуз, мо так зручней будзе спаць.*

**НАКАЗА́ЦЬ**, *зак.* Перадаць просьбу. *Наказала сестра з Бэрэжного, коб я прышла до ее.*

**НАКЛА́СЦІ**, *зак.* Апрануць. *Накладзі летніка, бо холодновато на дворэ.*

**НАКО́ВАНІК**, *м.* Каваны наканечнік, які замацоўваецца на кій для апоры пры хадзе. *Бало Сцепан робіў накованікі.*

**НАКОСЯ́К**, *прысл.* Крыва. *Накосяк тыніну прыбіў.*

**НАКРО́ІЦЦА**, *зак., экспр.* Наесціся. *Добрэ дзіця, харчамі не пэрэбірае: накроіцца, шчо е ў хаці, і грае далей.*

**НАКРЫВА́ЧКА**, *ж.* Накрыўка. *Возьміно ў шкафчыку капроновую накрывачку од банкі.*

**НАЛЁДНІК**, *м.* Самаробны канёк. *У дзецтве налёднікі робілі і каталіса по замэрзлой рэццэ.*

**НАМІРЫ́ЦЦА**, *зак.* Намерыцца; наважыцца. *Намірылаcа дочка ехаць у город і ніякіе ўговоры не помагаюць.*

**НАМІРЭ́ННЕ**, *н.* Намер. *У его ўжэ, мабыць, даўно было намірэнне выехаць одсюль.*

**НАМУ́ГАНЫ**, *прым., экспр.* Надзьмуты. *Бачу, Андрэй намуганы седзіць, здороўкацца не хочэ.*

**НАПАХНІ́ЦЦА**, *зак.* Наадэкалоніцца, надушыцца. *Чым гэто ты так напахніўса?*

**НАПАРА́ЧЫЦЦА**, *зак., экспр.* Заўпарціцца. *Напарачылаcа, толькі гэтэ ёй паліто купі, а вонэ ж ёй ніяк не пасуе.*

**НАПРОВА́ДЗІЦЬ**, *зак.* Накіраваць. *Нехто знарок напровадзіў гэту цыганку до мэне.*

**НАПРЫ́ШЧЫЦЦА**, *зак.* Насупіцца. *Не понаравілос, шчо сказаў, то напрышчылаcа і пошла, надутая.*

**НАПЭ́РСТОК**, *м.* 1. Напарстак. *Тоўсты мацер'ял – бэз напэрстка важко шыць.* 2. Кольца, з дапамогай якога прымацоўваюць касу да кассяя. *Сейчас добрэ заб'ю клінка ў напэрсток, шчоб коса не шаталаса.*

**НАРОБІ́ЦЦА**, *зак.* Напрацавацца. *Наробіўса за дзень – рук не могу пыдняць.*

**НАРОБІ́ЦЬ**, *зак.* Закансерваваць. *Погледзі, колькі банок наробілі: на ўсю зіму хваціць.*

**НАСКОВА́ЦЬ**, *зак.* Нацкаваць. *Я цебэ по-доброму прошу: оджэні свою корову од моіх соток, бо наскую собаку.*

**НАСТРЭ́НЧЫЦЬ**, *зак., экспр.* 1. Паабяцаць. *Настрэнчыў дзіця, шчо поедом у недзелю ў Столін, а цепэр ему, бач, нема колі.* 2. Падгаварыць, падбухторыць. *Настрэнчыла проціў мэне невестку, і нема спокою ў хаці.*

**НАТЫКНУ́ЦЬ**, *зак.* Абуць. *Шкода новых чобот, наткну якіе-небудзь старые.*

**НАХАБІ́ЧНЫ**, *прым.* Капрызны, крыўдлівы. *Вон так з віду нішчо хлопэц, але вельмі нахабічны.*

**НАЦЯКНУ́ЦЬ**, *зак.* Намякнуць. *Я ему нацякнуў, коб помог мне достаць лесу на хату.*

**НАШЫХОВА́ЦЬ**, *зак.* Назапасіць. *Нашыховала дочцэ ўсёго, хай толькі замуж ідзе.*

**НА́ШЧО**, *прысл.* Навошта. *Нашчо ты так дрова шчыльно до плота склаў, шчэ возьмэ обэрнецца.*

**НЕБО́Ж**, *звар.* Форма звароту да каго-небудзь. *Кажу, небож, не чэпай ты чужого, то будзеш спаць спокойно.*

**НЕБО́ЛІЦЬ**, *незак.* Зайздросціць. *Прошоў мімо сусед і не поздороўкаўса: неболіць, шчо мы столькі сена багато прывэзлі.*

**НЕВАЖНЕ́ЦКІ**, *прым.* Не вельмі добры. *Неважнецкэ гэто дзело, трэба іці до дохтора, послухаць, шчо вон скажэ.*

**НЕВА́РТЫ**, *прым.* Слабы, хворы. *Маці невартая ўжэ і на двор сама выці.*

**НЕГОДЗЯ́ШЧЫ**, *прым.* 1. Слабы, хворы. *Вера ўжэ зусем негодзяшчая, ледзь з ложка ўстае.* 2. *м., пагард.* Нягоднік. *Выбэрса, негодзяшчы, з моей хаты, коб твоей ногі тут больш не было.*

**НЕДО́КУРОК**, *м.* Недакурак. *Не кладзі недокурка на стол, выкінь у сметнік.*

**НЕДОЛЭ́ГА**, *м., неадабр.* Недарэка. *Гэты недолэга нічого ніколі доброго не зробіць.*

**НЕДО́НОСКІ**, *мн.* Паношанае адзенне. *Вечно мне за старшой сестрой трэба было недоноскі носіць.*

**НЕДО́ШЛЫ**, *прым.* Хваравіты, слабы. *Попаўса некі недошлы конь – ледзь плуга цягае.*

**НЕ́ДЗІ**, *прысл.* Недзе. *Недзі, мабыць, граблі на огородзі лежаць, бо нема іх у хлеве.*

**НЕ́КА**, *займ.* Нейкая. *Нека кошка прыбіласа до нас, коб хоць курчэнята не похапала.*

**НЕ́КОТРЫ**, *займ.* Некаторы. *То мо ўжэ ў цебэ некотры хлопэц у школу ходзіць?*

**НЕНАЕ́ДНЫ**, *прым.* Сквапны. *Але такі ненаедны чоловек, шчо, здаецца, усе ў свой двор пэрэцягаў бы.*

**НЕНАЎМЕ́Х**, *прысл.* Быць абыякавым да чаго-небудзь. *Ненаўмех мне нічого цепэр, глаўнэ, коб як дочка выздоровэла.*

**НЕОХВО́ТНО**, *прысл.* Сумна; самотна. *Неохвотно самому ў хаці жыць.*

**НЕТРОНЧА́ЦЦА**, *незак.* Не мець дачынення да чаго ці каго-небудзь. *До роботы ў хаці я ўжэ і нетрончаюс, усе дзэўкі самые поробяць.*

**НЕЎМЕ́ЛУХА**, *ж.* Няўмека. *Як ты кладзеш копіцу, неўмелуха.*

**НЕЎСПЫ́НОК**, *м., экспр.* Непаслухмянае, свавольнае дзіця. *От жэ неўспынок росце, толькі і дай ему якую-небудзь шкоду зробіць.*

**НЕХЛЮ́Я**, *аг., незадав.* Неахайны чалавек. *Гэта нехлюя пороскідала ўсе вэшчы по хаці.*

**НЕХОРОШЭ́**, *прысл.* Няёмка. *Нехорошэ бэз цукэркоў іці до сестры: у ее ж дзеці малые.*

**НЕХОРУ́ЗНЫ**, *прым., экспр.* Непрыгожы. *Нехорузная дзеўчына, але бачыш, замуж узялі.*

**НЕЦЯ́МА**, *аг., экспр.* Някемлівы, нездагадлівы. *От нецяма, не ўмеў роспорадзіцца грошамі.*

**НІГО́ННЫ**, *прым.* Ніводны. *Нігонны мой сын не выехаў з села.*

**НІДЗЕ́ЛЯ**, *ж.* 1. Нядзеля. *У нідзелю ходзіла на вэчэрню ў цэркоў.* 2. Тыдзень. *Ужэ на гэтой недзелі будом копаць бульбу.*

**НІЖЫ́ТОЎКА**, *ж.* Скула. *Ніжытоўка села на шыю, аж головой не можна повэрнуць.*

**НІ́ПОРКА**, *ж., экспр.* Той, хто абавязкова знойдзе нешта схаванае. *Гэто ж такая ніпорка, шчо хоць ты ў землю закопай, то седно знайдзе.*

**НІЦ**, *прысл.* Нічога. *Але ніц, неяк прожывом і бэз коровы.*

**НІШЧО́**, *прысл.* Нічога. *У гэтом году нішчо не будом садзіць за хлевом, нехай росце траўка.*

**НІ́ШЧЭЧКОМ**, *прысл.* Употай. *Я нішчэчком, коб ніхто не бачыў, і пэрэдала ёй тэ пісьмо.*

**НО́НДЗЕ**, *прысл.* Тут. *Нондзе лежаць твое очкі.*

**НОСЕ́ЛІЦА**, *ж.* Шост, з дапамогай якога пераносяць невялікую капу сена. *Бэры носеліцы, да понесом копічку до сцежарка.*

**НОСО́К**, *м., перан.* Пярэдняя частка лодкі. *Сумка з вэшчамі ў носку лежыць.*

**НУДЗЬГА́**, *ж.* Нудота. *А як жэ, чоловека ўжэ нудзьга ўзяла.*

**НЮ́НЯ**, *ж., экспр.* Плаксівае дзіця. *Вытры, нюня, слёзы, бо не пойдзеш зо мной у лаўку.*

## О

**ОББЕ́ГЦІ**, *зак.* Абабегчы. *Не-е, у его роботы своей нема; ему ж трэба суседзей оббегці: мо недзі сто грам дадуць.*

**ОБГЛЯ́ДЧЫНА**, *ж.* Агледзіны. *Поехалі сваты на обглядчыну до молодой.*

**ОБГРЭБЦІ́**, *зак.* Акучыць. *Ходзіла на соткі, трохі обгрэбла капусту.*

**ОБ'ЕДДЗЕ**, *н.* Рэшткі не з'едзенага кароваю сена; аб'едкі. *Повыбірай, сынок, об'еддзе з засторонка.*

**ОБЖАРЫЦЬ**, *зак.* Апячы. *Здаецца, аж горыць рука, так обжарыла ее кропівою.*

**ОБЛЕШЧАВЫ**, *прым.* Няяркага, невыразнага колеру. *А чого ты такую куртку облешчаву купіла?*

**ОБЛУПІЦЦА**, *зак., лаянк.* Пажаданне нядобрага. *Свіння, шчоб вона облупіласа, зрыла ўсёго двора.*

**ОБМЭШКА**, *ж.* Корм для жывёлы: дробна нарэзаная салома ці бульба, перасыпаная мукой. *Стары, занесіно корові обмэшку.*

**ОБОПНЕЦЬ**, *зак., экспр.* Моцна стаміцца, знерухомець. *Села да обопнела, нема сіл устаць.*

**ОБРЭЗАЦЬ**, *зак., экспр.* Падмануць, перахітрыць. *Обрэзалі мэне з гэтой машыной, не столькі езджу, колькі копаюса ў ёй.*

**ОБСМЫКАЦЬ**, *зак.* Абскубці. *Обсмыкаю трохі стожка, шчоб сено не звісало.*

**ОБЫДВА**, *лічэбн.* Абое. *Обыдва браты загінулі на войне.*

**ОБЭРНУЦЦА**, *зак.* Перакуліцца. *Похітнуўса і обэрнуўса на выбоіні воз з соломою.*

**ОГАДЗЯЦЬ**, *зак., экспр.* Надакучыць. *Огадзяла такая робота.*

**ОГАРШЭНІЦЦА**, *зак., лаянк.* Удавіцца. *От шчоб ты огаршэніўса, усю смэтану ў глечыках поз'едаў.*

**ОГЭТАЧЫ**, *прысл.* У такі самы час. *Учора екраз огэтачы вэрнуліса з лесу.*

**ОДВЕДАЦЬ**, *зак.* Наведаць. *Пойду одведаю сестру, погледжу, як вона там пожывае.*

**ОДДАЦЬ**, *зак.* Суняцца; сцішыцца. *Оддала трохі боль, а то неможна вытрымаць, гэ ў грудзях боліць.*

**ОДДЗЯНІЦЬ**, *зак.* Шырока адчыніць (звычайна дзверы). *Нашчо ты оддзяніла дзвэры, ці не бачыш, які холод на дворэ.*

**ОДЗІНЕЦ**, *м.* Адзіны сын у сям'і. *Цепэр Антосёў одзінец ідзе ў армію.*

**ОДЗІНІЦА**, *ж.* Адзіная дачка ў сям'і. *Не знаюць, як ужэ свою одзініцу одзеваць.*

**ОДЛУПАШЫЦЬ**, *зак., экспр.* Адлупцаваць. *Успокойса, бо сейчас жэ одлупашу.*

**ОДМЭНІЦЬ**, *зак.* Замяніць. *Сам пас коровы ўвэсь дзень, бо одмэніць не было кому.*

**ОДОБРАЦЬ**, *зак.* Паралізаваць. *Одобрало зусем руку.*

**ОДПУСЦІ́ЦЬ**, *зак.* Прадаць. *Одпусцілі два мэшкі мукі ў лаўцы.*

**ОДТАРА́СКАЦЦА**, *зак., экспр.* Адчапіцца ад каго-небудзь. *Прычэпіўса з своімі байкамі – ледзь одтараскаўса.*

**ОДТУ́ХНУЦЬ**, *зак.* Спа́сці, зменшыцца (пра пухліну). *К вэчору нога одтухла.*

**ОДШЧЫКНУ́ЦЬ**, *зак.* Адшчыпнуць. *Одшчыкні трохі булку, я попрэбую, ці смачная.*

**ОЗЕРЦЭ́**, *н.* Азярцо. *Кэле лесу е невэлікэ озерцэ, і там можна рыбы наловіць.*

**ОКО́Ч**, *прысл.* Даўно. *Окоч вон пошоў, мо ўжэ недзі на Борках будзе.*

**ОНО́ШЧО**, *прысл.* Толькі. *Оношчо сонцэ ўзышло, ек вышлі з хаты.*

**ОНЬ**, *часц.* Вось. *Онь там на ўслончыку лежыць молоток, подай мне его сюды.*

**О́НЬШЧО**, *займ.* Вось што. *Думалі, будзе ек лепш, а оньшчо получылосо.*

**ОПУ́ДЗВІЛО**, *н., пераносн.* Неахайны чалавек. *А чого гэто ты, опудзвіло, людзей смэшыш? Ці ж тобе нельга чысцейшую одзежу опрануць?*

**ОСЕРЭ́ДОК**, *м.* Частка вуліцы. *На нашом осерэдку ў каждой сем'е дзецей багато было.*

**ОСЫ́РЫЦЬ**, *зак.* Пакінуць. *Осырыў жонку з дзецьмі, а сам недзі волочыцца, бы собака, по свету.*

**ОТРУЦЯ́К**, *м., лаянк.* Атрута. *Отруцяка я тобе дам, а не гарэлкі.*

**ОХО́ТНІК**, *м.* Аматар чаго-небудзь. *Андрэй з молодых лет охотнік до рыбалкі.*

**ОЧАМРЭ́ЦЬ**, *зак.* Учадзець. *Дыму нашло столькі з грубы, шчо очамрэць можна ў хаці.*

**О́ЧЭПКА**, *ж.* Почапка. *Прывязала очэпку до мэшка і прынесла за плечыма онь колькі зелля свінням.*

**ОШКУ́РЫЦЬ**, *зак.* Абкарыць. *Роботы хватае: трэба ошкурыць дзерэво на хату.*

**ОШЛА́ПІЦЬ**, *зак.* Пакласці бярвёны ў зрубе паверх вокан. *После поўдня ошлапілі струба.*

**ОШОЛОМОНІ́ЦЦА**, *зак.* Закружыцца (пра галаву). *Вышла з машыны да так ошоломоніласа, шчо не знала, у які бок іці.*

**ОШУ́ТРЫЦЬ**, *зак.* Выявіць, убачыць. *Тут я ошутрыла – нема грошэй, які е лежалі ў прыскрынку.*

# П

**ПА́ДОШЫЦЬ**, *незак., экспр.* Шукаць што-небудзь. *Толькі вышла з хаты , а вон зноў падошыць по скрыні – нічого неможна схаваць.*

**ПА́ЖА**, *ж.* Паша. *Трохі поцеплее, то будуць короў на пажу выганяць.*

**ПАЛЕ́НІНА**, *ж.* Ранка на губе, якая выяўляецца ў сувязі з прастудным захворваннем; герпес. *Простудзіўса, да зноў паленіна выскочыла на губе.*

**ПАЛУ́ЗІНА**, *ж., экспр.* Кій. *Зарэ ек возьму гэту палузіну, то я тобе поподаю.*

**ПА́МОРОКІ**, *мн.* Страта здольнасці цвяроза разважаць, адэкватна ацэньваць сітуацыю. *Некіе паморокі на голову напалі, усе бы ў тумані.*

**ПАНТЫ́КІ**, *мн.* Стары, стаптаны абутак (звычайна туфлі). *Пантыкі кэле ганка стояць.*

**ПА́ПА**, *зб., дзіцяч.* Хлеб. *Возьмі, сыночок, у ручку папу.*

**ПАРШЫ́ВЭЦ**, *м., лаянк.* Непаслухмяны, свавольны чалавек (найчасцей пра дзіця). *Я ж тобе, паршывэц, сейчас покажу, як мацеру не слухацца.*

**ПА́ЎЗІНА**, *ж.* Галіна, якою прыцiскаюць верх стажка. *Подай мне паўзіны на стожок.*

**ПАХНІЮ́ЧЫ**, *прым.* Пахучы. *Ах, якэ пахнючэ мыло!*

**ПА́ЧКА**, *ж.* Невялікая група. *І мой сын з гэтой пачкой поехаў на заработкі.*

**ПАШНЯ́**, *ж.* Зерне жыта або пшаніцы. *Покуль у мэшках пашня стоіць.*

**ПЕ́ШНЯ**, *ж., устар.* Дзяўбальны інструмент для апрацоўкі ўнутранай часткі калоды. *Пешнёй выдоўбвалі і кадоўбы, і жлукта.*

**ПІНА́ЧКА**, *ж.* Вялікая шарсцяная хустка. *Слякоць на дворэ, трэба пiначку на плечы накінуць.*

**ПІ́НДЗІЦЬ**, *незак., экспр.* Плакаць. *Чого ты піндзіш, кому твое слёзы трэба, дзеўзно.*

**ПІ́ПА**, *ж., дзіцяч.* Вада. *Бачыш, у вэдрэ піпа.*

**ПЛАМЭ́ТНЫ**, *прым., экспр.* Непрадказальны. *Гэто такі пламэтны чоловек – не знаеш, шчо од его ждаць.*

**ПЛІСКА́ЦЬ**, *незак.* Пырскаць. *Не пліскай на мэне воду.*

**ПЛЫГА́ЦЬ**, *незак.* Скакаць. *Зыдзі з дорожкі, зарэ я буду плыгаць.*

**ПЛЮС (ПЛЮШ)**, *м.* Плюшавы сак. *Мо коб плюса одзеў, вецер холодноваты дуе.*

**ПЛЮШЧА́К**, *м.* Бясплодны гарбузік. *Багато плюшчакоў у гарбузе.*

**ПЛЯ́МКАЦЬ**, *незак., экспр.* Гаварыць абы-што. *Дато і плямкае губамі абылешчо.*

**ПЛЯ́ЦНУЦЬ**, *зак., экспр.* 1. Рэзка кінуць ці пакласці. *Шчэпіліса хлопцы біцца, а потом одзін ек пляцне на землю другого, то я думаў, шчо і косці его россыплюцца.* 2. Стукнуць. *Сейчас пляцну по мордзі, ек не ўспокоішса.*

**ПОБА́**, *заг.* Паглядзі. *Поба, екіе вэлікіе памідоры выраслі ў гэтом году.*

**ПОБІ́ЦЬ**, *зак.* Растаўчы. *Трэба побіць у чыгуне свінячую бульбу, покуль вона гарачая.*

**ПОБРЭ́СКНУЦЬ**, *зак.* Успухнуць (пра нябожчыка). *Небожчык ужэ побрэск, шчо неможна познаць.*

**ПОБУ́РКАЦЬ**, *зак.* Падрэзаць крылы ў курыцы. *Побуркала курам крыла, бо бэспэрэстанку на дорогу лецяць.*

**ПОВЫПО́РВАЦЬ**, *зак., экспр.* Знайсці. *Дзе б не схавала грошы, то гэта п'яніца повыпорвае.*

**ПОВЭДЭ́НЦЫЯ**, *ж.* Паводзіны; манера. *Гэто ў Антося такая повэдэнцыя, і нікого вон не послухае.*

**ПОГОРОМЫ́ЧАЦЬ**, *зак.* Грэбаваць. *Дзякуй, шчо не погоромычалі, зайшлі до нас у госці.*

**ПОДЖЫ́ЛЫ**, *прым.* Стары. *Язэп ужэ поджылы чоловек, мо восемдзесят годоў мае.*

**ПОЗБІВА́ЦЬ**, *зак.* Пакасіць. *Позбівайно трохі траву кэле хаты, а то стыдно пэрэд людзьмі.*

**ПОКІДА́НКА**, *ж.* Жанчына, з якою развёўся муж. *Ніхто не хочэ покіданку замуж браці.*

**ПОКО́С**, *м.* Атава. *Покос хорошы вырос у гэтом году.*

**ПОКОШТОВА́ЦЬ**, *зак.* Праверыць моц яйка, лёгка пастукаўшы яго аб зубы. *Покоштуй гэтэ ейцэ, мне здаецца, шчо вонэ вэльмі моцнэ.*

**ПОКРЫ́ШКА**, *ж.* Накідка на подушку. *У мэне недзі ў шкафу лежаць вышытые покрышкі.*

**ПОКРЭ́ПІНЫ**, *мн.* Збор блізкіх родзічаў жаніха і маладой за святочным сталом на трэці дзень пасля вяселля. *На покрэпіны збіраліса ў хаці молодой.*

**ПОЛ**, *м.* Нары. *Колісь большые дзеці на полу спалі, бо ў малых хатах не было дзе ложкі поставіць.*

**ПОЛА́ДЗІЦЦА**, *зак.* Памірыцца. *Ужэ поладзіліса жонкі, а то ўсе обговорвалі одна другую.*

**ПОЛІ́ЦА**, *ж.* Адкрытая шафа для посуду, якая замацоўвалася на сцяне пры дапамозе кручкоў. *Поліца цепэр у суёпцы весіць.*

**ПО́ЛУДЗЕНЬ**, *м.* Ежа, якую бяруць з сабой на працу. *Полудзень у сумку склала.*

**ПОЛУ́КУШОК**, *м.* Палукашак. *У мого дзеда колісь полукушок на возі быў.*

**ПО́МАЗКА**, *ж.* Кавалак сала, якім падмазваюць патэльню. *Намазвай добрэ помазкой, шчоб млінцэ одставалі от скоўроды.*

**ПОМО́РХЛЫ**, *прым.* Маршчыністы. *У бабы поморхлы від, бы пэчанэ яблыко.*

**ПОМО́РХНУЦЬ**, *зак.* Завянуць. *Бульба не годзіцца для еды: зусем поморхла.*

**ПОМЯ́Г**, *м.* Воблака. *Заплыло помягамі небо, можэ пойці дошч.*

**ПОМЯТУ́ШЧЫ**, *прым.* Той, хто мае добрую памяць. *Вон помятушчы чоловек, усе знае, колі і шчо было.*

**ПОПА́Р**, *м.* Пырнік. *Гэто ж немало попочысцілі землю од попару.*

**ПОПОДАВА́ЦЬ**, *зак., экспр.* Моцна набіць. *Полез стары розбороняць хлопцоў, да і ему чорт поподаваў.*

**ПОПО́НА**, *ж.* Гунька. *Я накіну попону на коня, бо вэльмі вэлікі мороз цепэр.*

**ПОПОТРЭПА́ЦЬ**, *зак.* Многа і доўга хадзіць. *Попотрэпаў пэшком з Ольпеня, і не было кому пыдвэзці.*

**ПО́ПЭРЭДЗЕНЬ**, *м.* Вяроўка на пярэдняй частцы воза ці саней, якою прымацоўваецца рубель. *Накручвай попэрэдня на рубэль.*

**ПОПЭРЭРО́СТАЦЬ**, *зак.* Перарасці. *Зусем попэрэросталі памідоры, трэба хучэй на градку садзіць.*

**ПОРОБЛЯ́ЦЬ**, *незак.* Рабіць. *А шчо твоя свякроў поробляе?*

**ПОРОДЗЕ́ЛЛЯ**, *ж., неадабр.* Той, хто позна ўстае. *Уставай, колькі можна ўжэ лежаць, бы породзелля.*

**ПОРТНЫ́**, *прым.* Палатняны. *До войны ў портных штанах ходзіў, бо мацер'ял коштоваў вэльмі дорого.*

**ПО́РХАЦЦА**, *незак.* Корпацца, калупацца. *Да докуль ты будзеш порхацца ў том хлеве, ідзі ўжэ ў хату.*

**ПОРЫНА́ЦЦА**, *незак.* Корпацца. *Цэлы дзень порынаюса на сотках, а роботы не бачыно.*

**ПОРЭ́ЙПАНЫ**, *прым.* Парэпаны. *Хлеб некі з віду нехорошы, увэсь порэйпаны.*

**ПОСЕДЗЁНКІ**, *мн.* Вячоркі. *Раней часто зімою на поседзёнкі до суседзей збіраліса, а цепэр нема гэтого.*

**ПОСЕ́ЛІШЧЭ**, *н.* Месца, на якім раней была пабудавана хата. *Ужэ поселішчэ неможна познаць: зроўнялосо з усей землей.*

**ПОСЕ́ЛЯ**, *ж.* Сядзіба. *У добром месці мойму сыну далі поселю.*

**ПОСТАЎНЫ́**, *прым.* Стройны, ладны. *Постаўная дзеўчына, нічого не скажэш.*

**ПОСТО́Л**, *м.* Лапаць. *З постолоў вода лёгко выцекала, ек по мокрому ходзілі.*

**ПОСТО́ПОК**, *м.* Стаптаны лапаць. *Раздва од постолоў толькі постопкі оставаліса.*

**ПОСТРО́ІЦЦА**, *зак.* Выздаравець. *Слава Богу, Олена построілаcа, то цепэр і дзецям лёгчэй будзе.*

**ПОТА́ПЦЫ**, *мн.* Страва з малака і хлеба. *У бабы зубоў почці не было, то ела часто потапцы.*

**ПОЎПЭРЭ́ЧКА**[1], *ж.* Шырокая палатняная торба. *У поўпэрэчку ставілі вэдро з ягодамі і неслі его за плечыма неколькі кіломэтроў.*

**ПОЎПЭРЭ́ЧКА**[2], *ж.* Папярочная баразна ў канцы зямельнага ўчастка (звычайна ў агародзе). *Плуг не доходзіць до плота, трэба робіць поўпэрэчку.*

**ПОХІТНУ́ЦЦА**, *зак.* Пахіснуцца. *Похітнуўса да чуць у воду не ўпаў з кладкі.*

**ПО́ЦЕЗЬ**, *ж.* Прасніца для воўны. *Недзі і сейчас поцезь валяецца на хаці.*

**ПО́ШКРЭБКА**, *ж.* Апошняе дзіця ў сям'і. *Гэто ўжэ моя пошкрэбка, самая маленькая ў сем'е.*

**ПОШМАГО́РЫЦЬ**, *зак.* Пайсці. *Не спіцца Язэпу, недзі пошмагорыў з самого ранку.*

**ПОШТРЫГОВА́ЦЬ**, *зак.* Прафастрыгаваць. *Учора поштрыговала споніцу, мо потом дочка машынкой сшые.*

**ПРА́СЛО**, *н., устар.* Прас. *У жэлезнэ прасло жар насыпалі.*

**ПРАЦЬ**, *незак.* Мыць бялізну. *Цепэр буду праць одзежу, бо заўтра ж свято.*

**ПРОЖА́ЦЬ**, *зак.* Памыць. *Сейчас прожму рубашкі старого.*

**ПРОКАЗА́ЦЬ**, *зак.* Сказаць; падказаць. *Гэто мне проказала сестра, шчо ў Століні е шыфэр.*

**ПРОКІДА́ЦЦА**, *незак.* Сустракацца, быць у наяўнасці. *Прокідаюцца сям-там грыбы, але шчэ мало іх сейчас.*

**ПРОКІ́НУЦЦА**, *зак.* Прачнуцца. *Прокінуласа, бачу на дворэ зусем відно, ну думаю, проспала корову выганяць на пажу.*

**ПРОЛЫ́СІЦЬ**, *зак.* Неакуратна памыць падлогу. *Толькі пролысіла пыдлогу: ні пыд ложком, ні пыд дзіваном не помыла.*

**ПРОПАЛА́ЦЬ**, *зак.* Правеяць. *Дзе нашэ корыто дзерэвянэ? Пропалаю ў ём зернята.*

**ПРОТЭ́**, *злучн.* Але. *Протэ ж вона не захоцела выходзіць замуж у чужэ село.*

**ПРО́СЦІЛКА**, *ж.* Посцілка. *Новой просцілкой засланы ложок.*

**ПРОЦЕРЭ́БА**, *ж.* Ляда. *Коб як нам на процерэбу повыцягваць дзерэво, то можна будзе і на машыну погрузіць.*

**ПРОШПЭ́ЦІЦЦА**, *зак.* Правініцца. *Не так жэ знялі его з роботы, нешчо ж прошпэціўса.*

**ПРОШТОЛЫ́ГА**, *м., неадабр.* Прайдоха. *З гэтым проштолыгой звязваца не хочэцца, бо толькі клопот будзеш мець.*

**ПРЫ́ГАТКА**, *ж.* Паромная прыстань. *Вода ў рэццэ высохла, шчо пором ледзь до прыгаткі пыд'езджае.*

**ПРЫДЗІВІ́ЦЦА**, *зак.* Прыгледзецца. *Прыдзівіласа добрэ, аж бачу Антось ідзе.*

**ПРЫЗЕ́МІСТЫ**, *прым.* Прысадзісты. *Хлопэц прыземісты, здоровяк.*

**ПРЫКІ́НУЦЦА**, *зак.* Запаліцца. *Не чэшы ранку, бо прыкінецца, да будзе нарыў.*

**ПРЫКОРХНУ́ЦЬ**, *зак.* Задрамаць. *Сон зморыў, да прыкорхнуў трохі на ложку.*

**ПРЫМО́Л**, *м.* Абрывісты глыбокі бераг ракі. *Осцерожно, не зваліса ў прымол.*

**ПРЫМЭРГОВА́ЦЬ**, *зак.* 1. Памераць. *Прымэргуй добрэ, а то будзе короткая дошка.* 2. Прыцэліцца. *Сейчас прымэргуюс, коб палка мімо не полецела.*

**ПРЫ́НІЦА**, *ж.* 1. Гібкі прут, якім замацоўвалі салому ці чарот на страсе. *Прыніцу прывязвалі до латы.* 2. Дугападобны пруток у каркасе кошыка. *Навырэзаў прыніц для кошэля.*

**ПРЫПАДА́ЦЬ**, *незак.* Накульгваць. *Нешчо наша корова прыпадае на одну ногу.*

**ПРЫПНУ́ЦЬ**, *зак.* Прывязаць. *Трэба хоць фартуха прыпнуць, бо ўкаляю споніцу.*

**ПРЫРО́ДНЫ**, *прым.* Прыгожы. *Прыродная дзеўчына і до роботы спраўная.*

**ПРЫСТА́ВІЦЬ**, *зак.* Паставіць што-небудзь варыцца. *На снеданне прыставіла бульбу варыцца.*

**ПРЫСТАРА́ЦЦА**, *зак.* Расстарацца. *Трэба будзе прыстарацца шчэ трохі сена корові на зіму.*

**ПРЫСТРО́ІЦЦА**, *зак.* Падрыхтавацца. *Мы ўжэ прыстроіліса, думалі сваты прыедуць.*

**ПРЫСЯБРЫ́ЦЦА**, *зак., іран.* Сесці побач з кім-небудзь, каб паддобрыцца. *Ба як Пеця прысябрыўса кэле Павы.*

**ПРЫЦЕЛЕПА́ЦЦА**, *зак.* Прыйсці, моцна стаміўшыся. *Ледзь прыцелепаласа з соток: такая абылеякая дорога после дошчу.*

**ПРЫЧО́ЛОК**, *м., устар.* Частка хлява, у якой жылі людзі. *Не кажны бало хату меў, доводзілосо і ў прычолках жыць.*

**ПУ́ПЭЦ**, *м.* Курыны страўнік. *Пупца кіну ў крупнік, хай варыцца.*

**ПУ́ХЛЯ**, *ж., лаянк.* Ад слова *пухліна. Шчоб на цебэ пухля напала, ек ты мне ўсёго плота розвэрнуў.*

**ПУ́ЦНУЦЬ**, *зак.* Сыпануць. *Пуцнула наўгад солі ў чыгунец, да крышаны солёноватые получыліса.*

**ПУ́ШКА**, *ж.* Пуга. *Возьмі пушку, бо конь вэльмі заценлівы, трэба ўвэсь час пыдганяць.*

**ПЫДБЕ́Л**, *м.* Рамонак пахучы. *Пыдбел кэле соток росце.*

**ПЫДБІ́ЎКА**, *ж.* Дошкі, прыбітыя пад краем даху, што навісае над сцяной. *Пыдбіўку зробім, то не будзе вецёр пыддуваць пыд стрэху.*

**ПЫДБІ́ЦЬ**, *зак.* Узбіць. *Пыдбіла цесто на млінцэ.*

**ПЫ́ДБОЙКА**, *ж.* Падгорнутая ніжняя частка сукенкі ці спадніцы. *А я і не бачу, шчо пыдбойка ў спонiцы одорваласа, дэй хожу, бы рохля.*

**ПЫДБО́ЧНІК**, *м.* Пярына. *Мое дочкі ўсе з пыдбочнікамі замуж выходзілі.*

**ПЫДГУЖО́ЎВАЦЬ**, *незак., экспр.* Падбухторваць. *Васіль жэ розумэц, стоіць і пыдгужоўвае Олеся.*

**ПЫДДАХО́ЎКА**, *ж.* Бакавыя дошкі на шчыце двухскатнага даху. *Будом прыбіваць закрыліны до пыддахоўкі.*

**ПЫДЖЫЖА́ЛЛЕ**, *н.* Сцягно жанчыны. *На дворэ такая холодзіна, а ты выставіла пыджыжалле, бы летом.*

**ПЫ́ДЛЕТОК**, *м.* Птушаня, якое вучыцца лётаць. *Пыдлеткі ў буськовым кубле прэбуюць свое крыла.*

**ПЫ́ДМАЗКА**, *ж.* Тое, што і *помазка.*

**ПЫДНЕБЭ́ННЕ**, *н.* Звод унутры печы. *З пыднебэння цэгла ўжэ выкрышваецца.*

**ПЫДНО́СІЦЬ**, *незак.* Падцягваць; далучацца да таго, хто спявае. *Ідом бало з вэчорок по селе і споём: хлопцы почынаюць песню, а мы пыдносім.*

**ПЫДПЭРЫ́ЦЬ**, *зак.* Падперці. *Пыдпэрыў трохі плота, а то зусем нахіліўса над градкой.*

**ПЫДРУ́БА**, *ж.* Ніжні вянец зруба. *Учора счэпілі пыдрубы на фундамэнці хаты.*

**ПЫДСКО́ЧЫЦЬ**, *зак.* Прыйсці; прыехаць. *Пыдскоч до мэне заўтра, я тобе дам смачных яблык.*

**ПЫДСТРО́ІЦЦА**, *зак.* Прыхарашыцца. *Пыдстроілас, да ба якая стала дзеўчына: хоць ты пыд вэнец ее вэдзі.*

**ПЫДУЗО́РНІК**, *м.* Абшыты карункамі белы кавалак тканіны, зверху якога засцілаецца посцілка; падзор. *Россцелі чыстого пыдузорніка на ложок.*

**ПЫДЧЫ́КАЦЬ**, *зак., экспр.* Абмануць, абхітрыць. *Добрэ его пыдчыкалі, цепэр не будзе хваліцца, які вон розумны.*

**ПЫДЧЭРЭ́ЎЕ**, *н.* Знешняя частка жывата жывёлы. *Ледзь свіння носіць свое пыдчэрэўе.*

**ПЫ́ДШЭЎКА**, *ж.* Падкладка. *Зносіласа пыдшэўка ў палітоні.*

**ПЫЛЮ́ГА**, *ж., экспр.* Моцны пыл. *Ну і пылюга стоіць – дыхаць нема чым.*

**ПЭЛЮ́ТКА**, *ж.* 1. Ягадзіца. *Скололи ў больніцы пэлюткі, да так боляць, шчо не могу седзець.* 2. Палавінка гарбуза. *Розрэжу гарбузы на пэлюткі і повыбіраю зерня́та.*

**ПЭРЭБІ́ЦЬ**, *зак.* Узбіць. *От дожыласа, неварта пэрэбіць сама подушку.*

**ПЭРЭБО́РЫ**, *мн.* Від узора ў посцілцы. *Ек пэрэборы ткалі, то трэба было ўвэсь час дошку ворочаць, якую закладвалі ў основу.*

**ПЭРЭБУНТОВА́ЦЬ**, *зак.* Патрывожыць. *Пэрэбунтоваў усех гусей.*

**ПЭРЭБУРЭ́ЦЬ**, *зак.* 1. Сціхнуць (пра надвор'е). *Пэрэбурэло на дворэ, дэй не пошоў дошч.* 2. Скончыцца. *Слава Богу, пэрэбурэло вэселле, цепэр мэнш будзе клопоту.*

**ПЭРЭВО́ДЗІНЫ**, *мн.* Тое, што і *покрэпіны.*

**ПЭРЭВО́ДЗІЦЦА**, *незак.* 1. Моцна жадаць што-небудзь. *Мое малые пэрэводзяцца за варэннем, воны б его, здаецца, увэсь дзень елі.* 2. Жадаць быць з кім-небудзь побач. *Наш Толік пэрэводзіцца за татом.*

**ПЭРЭГО́Н**, *м.* Перагон. *Малых целят пэрэгоном пояць.*

**ПЭРЭЛО́Г**, *м.* Захворванне ў свойскіх жывёлаў. *Нешчо корову на пэрэлогі ўзяло: падае на пэрэдніе ногі, не можэ ўстаць.*

**ПЭРЭПАДА́ЦЦА**, *незак.* Дагаджаць каму-небудзь. *А чого мне пэрэпадацца пэрэд такой невесткой, якая не хочэ і гледзець у мой бок.*

**ПЭРЭПОРО́ЦЬ**, *зак., экспр.* Абгаварыць. *Пэрэпорэ ўсех гэта мара, а сама бы опудзвіло ходзіць.*

**ПЭРЭРОБІ́ЦЦА**, *зак.* Перапрацавацца. *Не пэрэробіласа за дзень, возьмі хоць посуду помый.*

**ПЭРЭСЯ́ДКА**, *ж.* Перасадка. *З пэрэсядкой трэба ехаць до Магілёва.*

**ПЭСЧУГА́**, *ж.* Неўрадлівае пясчанае поле. *На гэтой пэсчузе нічого не будзе росці.*

**ПЭТРО́ЎКА**, *ж.* Гатунак яблыкаў. *У мого дзеда рослі солодкіе пэтроўкі.*

**ПЭЎНЕ́**, *мн.* Пеўні. *І нашчо мне трэба было гэту куру саджаць на яйца? Одные пэўне вывэліса.*

**ПЭЧКУ́Р**, *м.* Той, хто любіць ляжаць на печы. *Ну шчо, пэчкур, зноў бокі выгрэваеш?*

**ПЯ́ТКА**, *ж.* Канец касся, да якога мацуецца каса. *Пятка трэснула ў коссе, трэба ўжэ новэ робіць.*

## Р

**РАБОМЫ́СЫ**, *прым., пагард.* Вяснушачны. *З гэтым рабомысым і дружыць ніхто не хочэ, бо вечно лезе біцца.*

**РАЗ-ДВА́**, *прысл.* Хутка. *Мы раз-два прыехалі дохаты.*

**РА́МКА**, *ж.* Вышытая карціна, устаўленая ў рамку. *Цепэр рамкі ніхто ў хаці не хочэ вешаць, а колісь іх столькі поповышывалі.*

**РА́ПОТКА**, *ж.* Рагавое ўтварэнне на канцы нагі ў каровы або свінні. *Корова розодрала недзі рапотку.*

**РАПЭ́СЯ**, *ж.* Крыклівы чалавек. *Ужэ зноў гэта рапэся нечым недовольна, крычыць, бы дурная.*

**РАСАМА́ХА**, *ж., неадабр.* Неахайны чалавек (звычайна пра жанчыну). *І на кого ўжэ гэта расамаха стала похожа? А ніяк за собою не гледзіць.*

**РАШАМЭ́ТА**, *ж., экспр.* 1. Неахайная жанчына. *Хоць бы прычэсала трохі косы, рашамэта, а то бы з хлева вылезла.* 2. Непаваротлівая мажная жанчына. *Гэта рашамэта ледзь ворушыцца, лішнёго шага не ступіць.*

**РОВЭ́Ц**, *м.* Равок. *Хай у ровэц вода сцекае з города.*

**РО́ГАЦЬ**, *незак.* Рохкаць. *Свіння ўвэсь ранок рогае, коб хоць не захворэла.*

**РОЗБАЗУ́РАНЫ**, *прым.* Разбэшчаны. *Розбазураны хлопэц росце, не хочэ нікого слухацца.*

**РОЗБАТА́ЦЬ**, *зак.* Парэзаць. *Розбатаў ножом пальца.*

**РОЗ'ЕХАЦЦА**, *зак., экспр.* Распаўнець. *Роз'ехаласа Лідзіна дочка – ледзь у дзвэры ўлазіць.*

**РОЗЗЕВА**, *аг., груб.* Разява. *Ці ты не бачыш, роззева, шчо тут вода стоіць?*

**РОЗМАТЛОШЫЦЬ**, *зак.* Разбіць. *Як гэто ты розматлошыла вазу?*

**РОЗОГНАЦЬ**, *зак.* Акучыць бульбу. *Трэба розогнаць бульбу, покуль конь на руках.*

**РОЗУМЭЦ**, *м., экспр.* Разумнік. *Віктор – розумэц, толькі ўсе пыдсмейваецца над другімі.*

**РОПА**, *ж.* Перасоленая страва. *Квасок, бы ропа, неможна ў рот узяць.*

**РОСКАРДАШ**, *м., незадав.* Беспарадак. *Надоеў ужэ гэты роскардаш у хаці, а рэмонту нема конца.*

**РОСКУРОЖЫЦЬ**, *зак.* Паламаць. *Купілі малому машынку, то ў той жэ дзень роскурожыў.*

**РОСОХА**, *ж.* Палка з раздвоеным канцом. *Пыдпэры копіцу росохой, бо можэ пэрэвэрнуцца.*

**РОСПАСТРЫЦЦА**, *зак., экспр.* Мець намер ісці куды-небудзь. *Нема ў цебэ церпення пороботаць, ужэ роспастрыўса, бежыш некуды.*

**РОСПАСЦІСА**, *зак., экспр.* Тое, што і *роз'ехацца.*

**РОСПОРЭХ**, *м.* Разрэз на спадніцы. *Старая жоночына, а вона нацягнула споніцу на себэ з роспорэхамі.*

**РОСПУСЦІЦЬ**, *зак.* Распілаваць. *Роспусціў колоду на дошкі.*

**РОСТРОШЧЫЦЬ**, *зак.* Тое, што і *роскурожыць.*

**РОСТРЫБУШЫЦЬ**, *зак.* Расцерушыць. *Як гэто сонцэ прыпэкае, то трэба трохі рострыбушыць сено.*

**РОСТРЫНЬКАЦЬ**, *зак., экспр.* Неабдумана растраціць што-небудзь. *Рострынькала бэз толку грошы, а цепэр плачэ, шчо ёй нема за шчо жыць.*

**РОХЛЯ**, *аг., пагардл.* Неахайны чалавек. *Як тобе не стыдно рохлей ходзіць? Посоромяўса б людзей.*

**РОСЦЯЖКА**, *ж.* Расцягнуты шарсцяны світэр. *Не буду я больш гэту росцяжку носіць.*

**РОШЧАХНУЦЬ**, *зак., экспр.* Пакараць, пабіць каго-небудзь; знішчыць. *Я цебэ зарэ, хлопчэ, рошчахну на месці. Ці ты не бачыш, шчо робіш?*

**РОШЭЎКА**, *ж.* Вязаная карункавая стужка, якой злучаюць дзве полкі саматканага абруса. *Поба, якую шыдзельцэм звязала рошэўку.*

**РУМЫ́НОК**, *м., уст.* Жаночы чаравік з невысокай халяўкай. *Я помню, як моя маці ў румынках фарсела.*

**РЫШТУ́НКІ**, *мн.* Рыштаванне. *Трэба рыштункі робіць, бо ўжэ сцены высокіе і не можна цэглу класці.*

**РЭЎКА́Ч**, *м., экспр.* Дзіця, якое плача, або чалавек, які моцна крычыць. *І чого ты, рэўкач, усе плачэш?*

**РЭЗА́НКА**, *ж.* Кавалак. *Рэзанку сала з'еў, цепэр можна косіць.*

**РЭ́ЗКА**, *ж.* Загон. *Даў мне цесць невэліку рэзку землі.*

**РЭШЭТО́**, *н.* Прыстасаванне для лоўлі ўюноў. *Постаўлю рэшота на озерцах, мо які в'юн улезе.*

# С

**САПА́ЧКА**, *ж.* Матыка. *Сцепан зробіў у кузні добрую сапачку.*

**САПОВА́ЦЬ**, *незак.* Апрацоўваць матыкаю зямлю. *Увэсь дзень з дочкою саповалі соткі.*

**СВЕТ**. Многа (працы). *Роботы свет, не знаю за шчо брацца.*

**СВІНШЛЯ́**, *н.* Свіння. *Нешчо свіншля стало слабо есці, мо захворэло.*

**СВІСЦЁЛКА**, *ж., перан.* Легкадумная, несур'ёзная жанчына. *Гэтой свісцёлцы робота не трэба, вона лепш будзе волочыцца бэз дзела по селу.*

**СВО́ЕЦ**, *м.* Сувой палатна. *Свойцы полотна на дно скрыні складвалі.*

**СВЭ́ДЭР**, *м.* Світэр. *У свэдры цепэр жарковато будзе.*

**СВЭРБЯ́ЧКА**, *ж.* Сверб. *Свэрбячка на ногу напала – неможна вытрымаць.*

**СВЯТНЫ́**, *прым.* Святочны (звычайна пра адзенне). *Святную кошулю опранула.*

**СЕДНО́**, *прысл.* Усё роўна. *А вона седно мэне не послухала.*

**СЕЛЕ́НЕЦ**, *м.* Селядзец. *З'еў селенца, да вэльмі воды піць хочэцца.*

**СЕНЯ́К**, *м.* Сяннік. *Моя маці доўго не хоцела мэняць сеняка на матрас.*

**СЕ́РДАЛО**, *н., экспр.* Беспарадак. *Зноў розвёў сердало! Бэры веніка і сейчас жэ пыдмэтай!*

**СЕ́РКА**, *ж.* Малодзіва. *Попрэбуй млінцэ, з серкой цепэр іх пэкла.*

**СЕ́РЭД**, *прыназ.* Сярод. *Серэд дорогі машына зламаласа.*

**СЕРЭЎНО́**, *прысл.* Тое, што і *седно.*

**СЕ́ЧКА**, *ж., перан., экспр.* Пра таго, хто хутка гаворыць або агрызаецца. *Але ж такая сечка, шчо не дасць слова сказаць.*

**СІКОСЬ-НАКОСЬ**, *прысл., экспр.* Абы-як, крыва. *Дзвэры ўставілі сікось-накось – ні одчыніць, ні зачыніць.*

**СІЛОС**, *м.* Вінегрэт. *Раней робілі сілос на вэселле, а цепэр так ніхто і не называе гэты салат.*

**СКАДАВЭЦ**, *м.* Клінападобны мяшочак для адціскання сыру, тварагу. *Подзержыно скадавэц, я выллю оттопленэ молоко.*

**СКАЧКІ**, *мн.* Дзіцячая гульня: канец палачкі, якая пад нахілам вытыркаецца з ямачкі, удараюць большай палкай, імкнучыся хуткім ударам адбіць у паветры палачку як мага далей ад сябе. *Зарэ пабачым, хто ў кого выграе ў скачкі.*

**СКІНУЦЬ**[1], *зак.* Зрабіць аборт. *Молодая была да скінула дзіця, і осталаса одна: ніхто ее замуж не ўзяў.*

**СКІНУЦЬ**[2], *зак.* Скласці. *Скінулі сено ў стожок.*

**СКІРГІТАЦЬ**, *незак.* Скрыгатаць. *Не скіргічы зубамі, бо нехорошымі станўць.*

**СКІРДА**, *ж.* Сціртa. *На колхозном полі кругом стояць скірды.*

**СКЛЕПОВАННЕ**, *н.* Скляпенне. *Склепованне ў лёху трэснуло, коб хоць не обваліло.*

**СКЛЕПОК**, *м.* Зломак. *Знайшоў, чым хваліцца: не мотоцыкл, а так некі склепок.*

**СКЛЕЦЬ**[1], *незак., экспр.* Мёрзнуць. *Надоела такая робота: склей кажды дзень на холодзі.*

**СКЛЕЦЬ**[2], *незак., экспр.* Жыць адзінока ў хаце. *Роз'ехаліса дзеці хто куды, а мне трэба склець одному ў хаці.*

**СКЛОБІЦЬ**, *незак.* Зачышчаць. *Трохі посклобіў шклом ручку ў сокеры.*

**СКЛОБКА**, *ж.* Скобля. *Хочу трохі очысціць склобкой кору з дзерэва.*

**СКОПЭЦ**, *м.* Капец. *Бульбу на насенне засыпалі ў скопэц.*

**СКОРКА**, *ж.* Скарынка. *Смачна скорка з белого хлеба.*

**СКУБЛІЦЦА**, *зак.* Скудлаціцца. *Скубліліса косы пыд хусткой.*

**СКУНДЗЯБЛЕНЫ**, *прым.* Згорблены, сагнуты. *Седзіць старая Тэкля кэле хаты на табурэццы, такая зморшчаная, скундзябленая ўся.*

**СКУПЭРДЗЯЙ**, *м., неадабр.* Скупы чалавек. *У гэтого скупэрдзяя зімой лёду не допросішса.*

**СЛЕПАК**, *м.* Сляпень. *Слепакі заедаюць коня.*

**СЛЕПЦЭ**, *мн.* Жмуркі. *Хто будзе граць у слепцэ?*

**СЛЕПЭ́Ц**, *м.* 1. Сляпы чалавек. *Някі слепэц з хлопчыком по селе ходзіў, мілостыню просіў.* 2. *перан.* Чалавек, які нечага не бачыць, не заўважае. *Онь там твое рукавіцы, слепэц, лежаць.*

**СЛІЗО́ТА**, *ж.* Слізгата. *Пошоў дошч, да слізота зробіласа на дорозі.*

**СЛОТА́**, *аг., неадабр.* Назола. *Не лезь мне ў вочы, слота, лепш сядзь да ўрокі вывучы.*

**СЛЫХА́ЎКА**, *ж.* Слыхавы апарат. *Слыхаўку дзеду купілі.*

**СМАКО́ТКІ**, *мн.* Ласункі. *А дзе я набэруса вам тых смакоток, ешче тэ, шчо е ў хаці.*

**СМЫ́КАЦЬ**, *незак.* Нарываць. *Чутно, шчо ўжэ смыкае пальца, трэба было б якую мазь прыкласці.*

**СМЭТНІ́НА**, *ж.* Форма адзіночнага ліку назоўніка *смеццe. Пыдбэры смэтніну з пыдлогі.*

**СОЛО́ДКЭ**, *прым.* 1. Салодкае, смачнае. *Вырваў солодкэ яблыко.* 2. Свежае. *Молоко шчэ солодкэ, можна піць.*

**СОЛО́МЯНКА**, *ж.* Кавалак моцнай тканіны або старая посцілка, у якім ці ў якой пераносяць салому. *Соломянкой наносіла сена ў хлеў.*

**СОЛОПЕ́КА**, *ж.* Дзіця, якое паказвае без патрэбы язык. *Схавай, солопека, язык, бо зарэ ўколю голкой.*

**СОСО́НКА**, *ж.* Хвошч палявы. *І одкуль гэта сосонка бэрэцца, здаецца ж, толькі недаўно соткі пололі.*

**СОЎМА́Н**, *м., экспр.* 1. Негаваркі, няветлівы чалавек. *От соўман, і не одозваўса за вэчор: седзеў, бы сыч, надуты.* 2. Някемлівы чалавек. *Эх ты, соўман, не знаў, як пыдступіцца до дзеўчыны.*

**СОЎНЕ́ЧНІК**, *м.* Сланечнік. *Вораб'е повыклёўвалі на соўнечніку ўсе зернята.*

**СПАРЫЖОВА́ЦЬ**, *зак.* Паралізаваць. *Спарыжовало старого Цімоха, да столькі багато мучэння і ему, і дзецям.*

**СПО́ГАДЗЬ**, *ж.* Спагада. *От гадкі чоловек, не мае ніякой спогадзі до людзей.*

**СПРОВА́ДЗІЦЬ**, *зак.* Выправадзіць. *Дато спровадзіў дзецей у город, а сам оньшчо выробляе.*

**СПРОЦ**, *м.* Рагатка. *Малые хлопцы робілі спроцы і стрэлялі каменьчыкамі з вішэнь, а маці сварыласа.*

**СПРЫ́ХОДУ**, *прысл.* Пры ўваходзе ў памяшканне; навідавоку. *Погледзіно, там спрыходу ў кладоўцы гэбэл лежыць, прынесі мне его сюды.*

**СПУСТ**, *м.* Фуганак. *Сейчас пару раз шчэ спустом по дошцы пройдуса.*

**СТА́ЛКА**, *ж.* 1. Батон (каўбасы). *Купіў дзве сталкі коўбасы.* 2. Кавалак вяроўкі, якою прыціскаюць сена на возе. *Пэрэкідай сталку чэрэз рубэль да цягні ее ўніз.*

**СТАНО́К**, *м., уст.* Будан. *Немцы спалілі село, то людзі мусілі жыць у станках.*

**СТАРЧА́НКА**, *ж.* Жабрачка. *Чого гэто ты опрануласа, бы старчанка, шчоб людзі обговорвалі.*

**СТАЎ**, *м.* Станіна ў кроснах, на якую замацоўваюцца навой і валік з вытканым матэрыялам. *Давай покладом вороціла на ставы.*

**СТОГНЯ́К**, *м., лаянк.* Назоўнік ад слова *стогн. Стогняка я тобе дам, а не гарэлкі: ты шчэ і од учэрашней не одышоў.*

**СТО́ЙЛОВАЦЬ**, *незак.* Адпачываць пасля ежы на папасе (пра кароў). *Коровы зарэ стойлуюць, то пастуха не бачыно, мо тожэ недзі спіць.*

**СТО́НДЖКА**, *ж.* Завязка. *Возьміно стонджку, да завяжом мэшка.*

**СТРАПКА́Ч**, *м.* Саматканы стары ручнік. *Выцеры лаву страпкачом.*

**СТРО́ЙНЫ**, *прым.* Падрыхтаваны. *Я не буду вас ждаць, коб вы былі стройнымі, ек прыду.*

**СТРУБ**, *м.* Зруб. *Мы за два тыжні построілі струба хаты.*

**СТЫРЧА́Н**, *м.* Старчак. *Осцерожно ідзі, бо стырчан торчыць.*

**СТЫ́РЧМА**, *прысл.* Уніз галавой. *Покоўзнуўса да стырчма полецеў з высокого ганка.*

**СУ́ВЭРЧ**, *м.* Жгут. *Зробіно якого сувэрча з соломы, мо неяк звяжом гэтые палкі.*

**СУДАМІ́Н**, *прысл.* Бясследна. *Судамін пропала грошова голка, нідзе не могу знайці ее.*

**СУХМЕ́ЛЬ**, *м.* Узвышанае месца на лузе ці ў лесе, якое не затапляе вада. *Сухмэля з бацьком кажды год косілі.*

**СХАРАБУ́СЦІЦЦА**, *зак.* *Памяцца.* *У цебэ ўся куртка схарабусціласа ззаду.*

**СХОПІ́ЦЦА**, *зак.* Рана ўстаць. *Чого ты ўжэ схопіўса? Шчэ рано, поспаў бы.*

**СЦЕ́ЖАРОК**, *м.* Адонак. *Будом робіць высокі сцежарок, шчоб вода не пыдмочыла стожка.*

**СЦЁПКА**, *ж.* Кладоўка. *Бочка з мукою для свінней у сцёпцы стоіць.*

**СЦІ́БРЫЦЬ**, *зак., экспр.* Скрасці. *Быў у мэне такі хвайны ножык складаны, але нехто сцібрыў.*

**СЦЯ́КНУЦЬ**, *зак.* Сцячы. *Нехай одзежа трохі сцякне, да трэба будзе розвесіць.*

**СЫРО́ЎКА**, *ж* Неабпаленая цэгла. *Сыроўку людзі самые з гліны і пэску робілі, коб было з чого печ ці грубу складці.*

# Т

**ТА[1]**, *звар.* Форма звароту да бацькі. *Та, ты будзеш сейчас есці?*

**ТА[2]**, *займ.* Тая. *Та вороўка порваласа.*

**ТАКЭ́**, *займ.* Такое. *У нас тожэ такэ поле зарослэ, неможна ему рады даць.*

**ТА́МЭКА**, *прысл.* Там. *Тамэка цепэр пшэніца росце.*

**ТАРАГОНЕ́ЦЬ**, *незак.* Грукатаць. *Камбайны кэле села тарагоняць, мабыць, пэрэездажаюць на другэ поле жыто жаць.*

**ТАРАМА́Ч**, *м., экспр.* Поўны маленькі хлопчык. *Такі тарамач, шчо нельга на рукі пыдняць.*

**ТАТА́РНІК**, *м.* Аер. *Татарнік на тройцу россцілаем у хаці.*

**ТАТУ́СЬ**, *м.* Хросны бацька. *Татусь кажды раз прыходзіць до нас на вэліконне, госцінцы прыносіць.*

**ТВОГО́**, *займ.* Твайго. *Я возьму твого ровэра.*

**ТОПІ́ЦЬ**, *незак.* Паліць у печы. *Цепэр буду топіць у пэчэ, бо трэба свінням бульбы зварыць.*

**ТОРКА́ЦЬ**, *незак.* Чапаць. *Не торкай яблоньку, бо засохне.*

**ТОРО́ЧЫЦЬ**, *незак., экспр.* Даказваць. *Шчо вона там усе тобе торочыла?*

**ТОЎДЫ́**, *прысл.* Тады. *Тоўды мы не ходзілі ў кіно.*

**ТОЎПЭ́НЯ**, *ж.* Каша з тоўчанай варанай бульбы. *Емо тоўпэню з молоком.*

**ТОЎШЧ**, *прым., экспр.* Тоўсты. *А дзерэво тэ тоўшч, не обхопіць рукамі.*

**ТО́ЧКА**, *ж.* Мядзведка. *Точка ўсю бульбу попорціла на сотках.*

**ТРАХОМУ́ЦЦЕ**, *н.* Транты. *Нашчо ты збіраеш гэтэ трахомуцце? Выкінь, шчоб его ў хаце і следу не было.*

**ТРО́НОК**, *м.* Тронкі; ручка ў вілах. *Возьміно вілкі з доўгім тронком, коб можна было подаваць сено на стожок*

**ТРУ́МКАЛО**, *н., экспр.* Балбатлівы чалавек. *Годзі, трумкало, говорыў абышчо.*

**ТРУМКА́Ч**, *м., экспр.* Плаксівае дзіця. *Сціхні, трумкач, надоеў з своімі слёзамі.*

**ТРЫВУ́ШЧЫ**, *прым.* Цярплівы. *Семэн трывушчы чоловек: такую опэрацыю не кажды выдзержыць.*

**ТРЫ́НЬДЗЯЎКА**, *аг., экспр.* Слабавольны, легкадумны чалавек. *У гэтой трыньдзяўкі грошы не полежаць: вона іх раз-два роспусціць.*

**ТРЫ́ЧКА**, *ж., экспр.* Выкарыстоўваецца для выяўлення негатыўных эмоцый пры характарыстыцы жанчыны. *Куды гэто годзіцца? Нацягнула короткую спонiцу і пошла, бы трычка.*

**ТРЭПА́ЧКА**, *ж.* Прылада для трапання льну. *Трэпачкой кострыцу выбіваюць з ільну.*

**ТРЭ́ПНУЦЬ**, *зак., экспр.* Ударыць каго-небудзь. *Будзеш абылешчо робіць, то трэпну зарэ по руках.*

**ТРЭ́ПУЦЕНЬ**, *м., неадабр.* Несур'ёзны, непаслухмяны чалавек. *А хто за гэтого трэпутня пойдзе замуж?*

**ТРЭПЭСТА́ЦЬ**, *незак., экспр.* Многа гаварыць; пляткарыць *Гэто ж нема шчо ёй робіць, ходзіць по селу і трэпэшчэ своім дурным языком.*

**ТУГОЦЕ́ЦЬ**, *незак.* Ідучы, грукаць абцасамі, падэшвамі абутку. *Чую, нехто позно вэчэром тугоціць кэле моей хаты.*

**ТУМА́К**, *м., незадав.* Недарэка. *Тумак ты, чому цебэ толькі ў школі вучаць.*

**ТУПІ́ЦА**, *ж.* Тупая шчарбатая сякера. *Не бэры добру сокеру, возьмі тупіцой позабівай колкі.*

**ТЫ́ЖДЖЭНЬ**, *м.* Тыдзень. *І шчо гэто зробілосо з погодой, цэлы тыжджэнь ідзе дошч.*

**ТЭ́БЭЛ**, *м.* Драўляны гвозд для замацавання бярвёнаў у зрубе. *Коб хоць коротковаты тэбэл не быў.*

**ТЭ**, *займ.* Тое. *Возьмі тэ корыто да пэрэстаў бліжэй до колодзезя.*

## У

**УВЕ́РЫЦЦА**, *зак.* Надакучыць. *Уверылос полоць гэтэ зелле ў огородзі, бэспэрэстанку вонэ росце.*

**УВОБРА́ЦЦА**[1], *зак.* Забрацца. *Нехто ўночэ ўвобраўса ў город да ўсе ранніе яблыка позрываў.*

**УВОБРА́ЦЦА**[2], *зак.* Апрануцца па-святочнаму. *Ліда ўвобраласа во все новэ, мабыць, пошла стрэчаць дочку з зяцем.*

**УВЭРА́ЦЦА**, *незак.* Абурацца. *Увэраласа Зоня, шчо ніколі брат ее не одведвае.*

**УДА́ЧА**, *ж.* Фізічная форма. *Гэто его такая ўдача: кормі ці не кормі, а седно худы.*

**УДО́СВЯТКУ**, *прысл.* На досвітку. *Удосвятку ўсталі і поехалі по чэрніцы ў лес.*

**УЕ́СЦІСА**, *зак.* Надакучыць. *Уелосо мне кажды дзень ходзіць на такую роботу.*

**УКАЛІ́ЦЦА**, *зак.* Забрудзіцца, запэцкацца. *Погледзі, як ты ўкаліўса, усе паліто нечым збоку заляпаў.*

**УКІ́НУЦЬ**, *зак.* Пасадзіць (звычайна пра бульбу). *Мы шчэ пэрэд вэліконнем укінулі бульбу.*

**УКРА́ДЗЬКІ**, *прысл.* Крадком, незаўважна. *Украдзькі, коб крыбо на не немцоў не нарвацца, людзі прыходзілі ўночэ з лесу ў село і бралі прыхаваные вэшчы.*

**УЛА́ДЗІЦЬ**, *зак.* Згубіць, паламаць. *Зноў уладзіў ручку – будзеш пальцэм пісаць.*

**УЛЕ́ЗЦІ**, *зак.* Перасяліцца (у новую хату). *Толькі ў новую хату ўлезлі, а тут на тобе – война.* 2. Зайсці (у хату). *Не ўспела ўлезці ў хату до суседкі, ажно бэжыць моя дочка по мэне.*

**УМАТЛО́ШЫЦЬ**, *зак., экспр.* З'есці. *Уматлошылі ўсе, шчо было на столе.*

**УПЭКЦІ́СА**, *зак.* Тое, што і *уесціся.*

**УПЭ́РЭД**, *прысл.* Раней. *То неяк упэрэд прыезджаў сын.*

**УРВА́ЦЬ**, *зак.* Крыху нарваць чаго-небудзь. *Ідзіно ўрві вішэнь, да кампоту зварым.*

**УРЭ́ЙДАЦЦА**, *зак.* Запэцкацца. *Дзе гэто ты ўрэйдаўса, бы свіння?*

**УСЕРЭЎНО́**, *прысл.* Усё роўна. *Коб усерэўно, то лезлі б у окно, а так ідуць у дзвэры.*

**УСПЛЕ́ННЕ**, *н.* Успенне. *Успленне – цягні бульбу за корэнне.*

**УХАЙДО́ХАЦЬ**, *зак., экспр.* 1. Моцна патраціцца. *Немало ўхайдохалі грошэй на гэту покупку.* 2. Многа з'есці. *Зара́з ухайдохалі сталку коўбасы.*

**УЧЭПУШЫ́ЦЬ**, *зак., экспр.* Натварыць. *Шчо вон там ужэ ўчэпушыў?*

## Х

**ХА́ТА**, *ж.* 1. Пакой. *У пэрэднёй хаці стола круглого поставілі.* 2. Гарышча. *Позаносіла старую одзежу на хату.*

**ХВАТА́ЦЬ**, *незак.* Хапаць; быць дастатковым. *Мне здаецца, шчо хватае тут землі под буракі.*

**ХВА́ЙНЫ**, *прым.* 1. Добры. *Грыцко хвайны чоловек, од его ніколі пустого слова не почуеш.* 2. Прыгожы. *Хвайная дзеўчына, на мацеру змахвае: кругловідая, моцная ў целі.*

**ХВОРОСЦІ́НА**, *ж.* Галіна. *Откінь хворосціну ўбок, коб не мэшала ходзіць.*

**ХВОРЭ́ЗНЫ**, *прым., экспр.* Ад слова *хворы*; ужываецца для выяўлення негатыўных эмоцый. *А ты шчо, хворэзны ўзяць лопату да покопаць трохі градкі. Мо ж горы не ворочаеш.*

**ХІБЭ́ЛЬ**, *часц.* Хіба. *Хібэль зранку завэзлі масло ў лаўку, бо ўчора ўвэчэры не было.*

**ХІСТ**, *м.* Тонкая палка, якая размяжоўвае ўчасткі. *На хісце запісаны номэр участка сена.*

**ХІТА́ЦЦА**, *незак.* Хістацца. *Слон зусем хітаецца, коб хоць не ўпаў.*

**ХЛЕВЭ́Ц**, *м.* Хлеўчык. *Куры ў хлеўцэ ночуюць.*

**ХОДА́Н**, *м.* Ходнік. *Поправ ходана, усе своімі крывымі ногамі посцягваеш.*

**ХОЛОДЗІ́ЛО**, *н.* Халадзец. *Наварыла холодзіла, але дзеці не вэльмі хочуць его есці.*

**ХОРОСТВЭ́ЛЬНЫ**, *прым., экспр.* Вельмі прыгожы. *Дзеўчына хороствэльная, коб шчэ і жызнь была ее добрая.*

**ХОРО́ШЧ**, *прысл.* Прыгажэй. *Постаўце дзівана бліжэй до окна, так хорошч будзе.*

**ХОРО́ШЫ**, *прым.* Прыгожы. *З віду хорошы хлопэц, а які вон ек чоловек – Бог его ведае.*

**ХОРОШЭ́НЬКО**, *прысл.* 1. Асцярожна. *Хорошэнько несі банку з молоком, коб не розбіласа.* 2. Ветліва, далікатна. *Я хорошэнько попросіла ў Шуры, дэй вона мне выпісала праўку.*

**ХРАБУСЦЕ́ЦЬ**, *незак.* Хрыпець. *Ужэ которы дзень у грудзях храбусціць і кашэль душыць.*

**ХРА́ПА**, *ж.* Падмёрзлая гразь. *Храпа на дворэ зробіласа, да важко іці.*

**ХРАПА́ТЫ**, *м., экспр.* Шыраканосы. *А ты, храпаты, моўчы, вэздзе свого шырокого носа сунеш.*

**ХРОМАКІ́**, *мн.* Хромавыя боты. *На дворэ нема вэльмі гразе – обую хромакі.*

## Ц

**ЦЕЛЬПУ́К**, *м., перан.* Поўнае дзіця. *Гэтого цельпука на рукі неможна пыдняць.*

**ЦЕНЕТО́**, *ж.* Сець для лоўлі рыбы. *Ек з ценетом поймаюць на рыбалцы, то оштрапуюць.*

**ЦЕПЭ́РА**, *прысл.* Цяпер. *Цепэра не вэльмі жарко.*

**ЦІЛІ́МКАЦЬ**, *незак.* Сігналіць веласіпедным званком. *Ці ты, глухман, не чуеш, шчо я тобе цілімкаю?*

**ЦІЦЮ́Н**, *м.* Тытунь. *Мой дзед кажды год саджаў ціцюн у огородзі.*

**ЦО́ЛДА**, *ж.* 1. Вялікі кавалак. *Прыезджалі дзеці ў госці, то одрэзалі ім добрую цолду сала.* 2. *Перан., іран.* Многа (пра грошы). *Ну шчо, Мане, ужэ цолду грошэй з пенсіі наскладала?*

**ЦУРПА́ЛОК**, *м.* Ніжняя частка сцябла бурака. *Боцвіння трэба посекці свінням, а цурпалкі корові даць.*

**ЦУ́ЦАВІЦА**, *ж., іран.* Насоўка ці анучка, у якую завязаны грошы. *Куды ж ты цуцавіцу з грошыма хаваеш?*

**ЦЫБУ́К**, *м.* Кветканоснае полае сцябло цыбуліны. *Цыбуля ўся ў цыбукі пошла.*

**ЦЭ́ЛІЦЬ**, *зак.* Сустрэць. *Гэто ж трэба было гэтого дурня цэліць да свой век промучыцца.*

**ЦЭ́НТЭР**, *м.* Свердзел. *Мо ты, Костусь, позычыш мне цэнтра?*

**ЦЭ́РКОЎ**, *ж.* Царква. *Цэркву нашу побудовалі аж дзвесці год тому назад.*

## Ч

**ЧОЛОВЕ́ЧОК**, *м.* Зрэнка. *У цебэ на чоловечок вейка ўпала.*

**ЧО́РНЫ**, *прым.* Брудны. *Попэру з кухні цюль, бо ўжэ зусем чорная стала.*

**ЧОХО́Л**, *м.* Манжэта. *Чохлы ў рукавах заносіліса.*

**ЧОХРЫ́ЦЬ**, *незак.* Часаць, апрацоўваць воўну. *Колісь до нас і з другіх сёл прыезджалі чохрыць воўну.*

**ЧЫГУНЕ́Ц**, *м.* Чыгунчык. *Купіла чыгунца ў магазіні, будзе кашу ў чом зварыць.*

**ЧЫ́КАЦЦА**, *незак., экспр.* Валаводзіцца, вазіцца. *Я з тобой доўго чыкацца не буду, раз-два по мордзі дам.*

**ЧЫ́КНУЦЬ**, *зак.* Рэзануць. *Хлеб рэзала і чыкнула пальца, да кроў ідзе.*

**ЧЫРЫ́ЦА**, *ж.* Чырок. *Чырыцы на лесном озеры плаваюць.*

**ЧЭПЛЕЯ́**, *ж.* Чапяла. *Достань скоўроду з пэчы чэплеей.*

**ЧЭРЭВА́Ч**, *м., экспр.* Поўны, мажны мужчына. *От Мітро чэрэвач стаў, здыхацца не можэ.*

**ЧЭРЭ́Н**, *м.* Чарэнь. *Чэрэн моцно вышчэрбіўса.*

**ЧЭРЭ́Т**, *зб.* Чарот. *Чэрэт розросса кэле канавы.*

**ЧОТЭ́РЫ**, *лічэбн.* Чатыры. *Купіла чотэры кілограмы цукру.*

## Ш

**ША́ГОРЫЦЬ**, *незак., экспр.* Шукаць. *Якого ты там ліха шагорыш по суёпцы, шчо тобе там трэба?*

**ШАЛАПА́Й**, *м.* Легкадумны, пусты чалавек. *А гэты шалапай так і не прышоў ?*

**ШАЛО́ЦІЦЬ**, *незак., экспр.* Гаварыць. *Отстань од мэне. Я цебэ і не слухаю, шчо ты там шалоціш.*

**ШАЛЯНО́ЎКА**, *ж.* Шарсцяная квяцістая хустка. *Поба, якую шаляноўку купіла мне дочка.*

**ШАМА́РКАЦЬ**, *незак., экспр.* Гаварыць нешта непатрэбнае. *Стары, не шамаркай абылешчо, посоромяўса б молодых.*

**ША́МАЦЬ**, *незак.* 1. Шамацець. *Чую, нешчо бы шамае на пэчэ, а потом раз – і мыш пробегла зусем кэле мэне.* 2. Тое, што і *шамаркаць.*

**ША́РГА**, *ж.* Моцны пранізлівы вецер. *От сходзіласа на дворэ шарга.*

**ШАЎРЫ́ГАЦЬ**, *незак., экспр.* Гаварыць. *Шчо ты там шаўрыгаеш, скорэй коня запрагай.*

**ША́ХВОРОСТ**, *м., экспр.* Непаседлівы хлапчук, свавольнік. *Гэто ж такі шахворост росце, шчо нема на его ніякой управы.*

**ШВА́ЙКА**, *ж.* Тонкі жалезны стрыжань, якім колюць свіней. *Трэба швайку трохі пыдточыць.*

**ШКА́ЛЬКА**, *ж.* Ракавіна. *Порэзаў ногу ў рэццэ об шкальку.*

**ШКАРПЭ́ТКА**, *ж.* Кароткая жаночая панчоха. *Дзеўчата носілі шкарпэткі, ек босоножкі обувалі.*

**ШКУ́РА**, *ж., груб.* Непаслухмяны, грубы чалавек. *Я тобе, шкура, покажу, як старых людзей дражніць.*

**ШКУРА́ТНІК**, *м.* Скупшчык скур. *Ек раней рэзалі целя, то здавалі шкуру шкуратніку.*

**ШМАЛІ́ЦЬ**, *незак., экспр.* Ісці. *Шмалі одсюль, шчоб мое вочы цебэ не бачылі.*

**ШМО́ЙЛО**, *м.* Неахайны чалавек. *Вытры ногі, шмойло, а то з гразею прэсса ў хату.*

**ШМО́ЦЦЕ**, *н.* Бялізна. *Попрала шмоцце, але неможна розвесіць: дошч пошоў.*

**ШМУЛЯ́ЦЦА**, *незак., экспр.* Хадзіць без справы, занятку. *А чого тобе трэба шмуляцца по чужых хатах, седзі дома.*

**ШНЫРО́ЎКА**, *ж.* Безрукаўка, якую апранаюць жанчыны пад кофту. *Ужэ цепэр жонкі шныроўку не носяць, хіба мо толькі бабы старые.*

**ШОЛОПУ́ДА**, *м.* Тое, што і *шалапай.*

**ШО́ПА**, *ж.* Павець. *Насыплем бульбы трохі ў шопу. Нехай там просыхае, а то зусем мокрая.*

**ШТА́БА**, *ж.* Дугападобная жалезная пласціна ў чалесніках печы. *Бэз штабы не зробіў бы дзірку ў пэчэ, куды дрова кладуць.*

**ШТАЛЮ́ГІ**, *мн.* Козлы. *Прынесі шталюгі, да нарэжом дроў.*

**ШТАЛЬВА́ГІ**, *мн.* Сталюга. *Трэба пыдняць бруса на штальвагі, да роспусцім на дошкі.*

**ШТАНДА́РА**, *ж.* Короткая дубовая калода, якая служыць апорай для драўлянага будынка. *Раней хату на штандарах ставілі, бо ні на цэглу, ні на цэмэнт не было грошэй.*

**ШТА́ПНУЦЬ**, *зак., іран.* Выпіць. *Штапні шчэ сто грам, цеплей будзе.*

**ШТО́ЎХАЦЦА**, *незак.* Штурхацца. *Не хочэцца штоўхацца ў гэтом аўтобусі: вэльмі ж багато людзей едзе.*

**ШУЛЕ́ПА**, *м.* Някемлівы чалавек. *Ну ты, Анрэй, і шулепа. Цебэ трэба шчэ вучыць, як до лесніка пыдступіцца?*

**ШУЛЕ́ПКОВАТЫ**, *прым.* Дурнаваты. *Вон з дзецтва некі шулепковаты, дажэ ў школу не ходзіў.*

**ШУРОВА́ЦЬ**, *незак., экспр.* Ездзіць без патрэбы. *Купіў машыну да шуруе туды-сюды.*

**ШУПЛЯ́ДА**, *ж.* Шуфляда. *Кніжкі ў ніжнёй шуплядзі лежаць.*

**ШЧО́ХАЦЬ**, *зак.* Сцерці. *Чобот вузковаты, да шчохаў пятку на нозе.*

**ШЧЫГУ́ЛЬНЫ**, *прым.* Вузкі. *Вэльмі шчыгульны летнік, і нагнуцца неможна.*

**ШЧЭ**, *прысл.* Яшчэ. *Шчэ вішне не поспелі.*

**ШЧЭ́НО**, *прысл.* Толькі-што, нядаўна. *Шчэно з поля вэрнуласа.*

**ШЧЭРНІ́ЦЬ**, *зак., экспр.* Моцна збіць. *А вон не хочэ нічого слухаць, дато я ўзяла паска да добрэ шчэрніла, шчоб доўго помніў.*

**ШЫ́БКА**, *ж.* Шыба. *Шыбка трэснула ў окне.*

**ШЫ́БЭЛЬНІК**, *м., неадабр.* Шыбенік. *Гэты шыбэльнік шчэ собе голову скруціць.*

**ШЫДЗЕ́ЛЬЦЭ**, *н.* Кручок для вязання. *Шыдзельцэ неяк зогнулосо – не вэльмі добрэ вязаць.*

**ШЫ́КОЦІЦЬ**, *незак., экспр.* Старацца непрыкметна што-небудзь рабіць. *Шчо ты там шыкоціш? Мо неку шкоду робіш?*

**ШЫ́МОРЫЦЦА**, *незак.* Неспакойна ляжаць, круціцца. *Пэрэстань шыморыцца, спі, бо скоро ў школу ўставаць.*

**ШЭЛЕХТА́ЦЬ**, *незак.* Казытаць. *Сено сухэ да шэлехчэ шыю – неможна лежаць.*

**ШЭ́НДЗЯ**, *ж.* Ліхаманка. *А чого цебэ, бы шэндзя, трасе, ніяк успокоіцца не можэш.*

**ШЭНДЗЯ́К**, *м.* Ужываецца як лаянкавае слова. *Шэндзяка ты получыш, а не грошы.*

**ШЭРЭ́Ш**, *м.* Шарош. *Дубком цепэр по рэццэ не поедзеш, бо шэрэш ідзе.*

## Я

**Я́БЛЫКО**, *н.* Яблык. *Вэльмі смачнэ яблыко.*

**ЯКЭ́**, *займ.* Якое. *Насце, не знаеш, якэ цепер чысло? Мо ўжэ скоро пенсію прынесуць?*

**ЯРГІ́НА**, *ж.* Вяргіня. *Пыд окном яргіны хорошэ росцвілі.*

**ЯРУ́ГА**, *ж.* Глыбокі роў, яма. *Яругу вымыла вода на дорозі, а засыпаць нема кому.*

**Я́СІК**, *м.* Невялікая, звычайна ўпрыгожаная вышытым узорам падушка. *Ясікі на ложок ставяць, шчоб хорошч было.*

# ФРАЗЕАЛАГІЗМЫ

## А

**АЖ ПЫЛ КУРЫ́ЦЬ.** Дружна, зладжана (працаваць). *От спраўные роботнікі зобраліса: сено грэбуць аж пыл курыць.*

**А НІ ДО́ЗУБУ.** Не падступіцца да каго-небудзь. *Просіў коня ў брыгадзіра, а вон а ні дозубу – і слухаць мэне не хочэ.*

## Б

**БІЧА́ ПРОСІ́ЦЦА.** Заслугоўваць фізічнага пакарання. *Я ўсе церплю, але ўжэ даўно бачу, шчо гэты дурніло біча просіцца.*

**БОГ ВЕДЗЬ ШЧО.** Тое, што не заслугоўвае асаблівай увагі. *Хваліцца, якая капуста вырасла ў ее, бы Бог ведзь шчо.*

**БО́КІ РВА́ЦЬ.** Рагатаць. *Ек почала вона росказваць, як пэршы раз ехала ў Москве ў мэтро, то мы бокі рвалі.*

**БРА́ЦЬ НА ЯЗЫКІ́.** Абгаворваць. *Да вэдзі себэ добрэ, коб людзі не бралі на языкі.*

**БУДЗЬ ЗДОРО́Ў.** Вельмі добры. *Будзь здороў хату зробілі.*

**БУ́ХАЦЬ БЫ Ў БО́ЧКУ.** Моцна кашляць. *Зноў простудзіўса і бухае бы ў бочку.*

**БУ́ЧУ ПЫДНЯ́ЦЬ.** Пачаць моцна абурацца, сварыцца. *Нешчо пастух не тэ сказаў, тоояркі бучу пыднялі.*

**БЫ ДУРНО́МУ СВОЙ.** Той, хто вызначаецца неразумнымі паводзінамі, учынкамі. *А вон бы дурному свой, абылешчо выробляе.*

**(БЫЦЬ) У БЫВА́ЛЦАХ.** (Пабываць) у складаных жыццёвых сітуацыях. *Мірон ужэ быў у бывалцах, то ему не так страшно было.*

**БЫЦЬ У ШТАТУ́.** Мець пастаяннае месца працы на ферме. *Вона получае добрую пенсію, бо вэльмі ж доўго была ў штату.*

## В

**ВО́ЧЫ Ў СОБА́КІ ПОЗЫ́ЧЫЦЬ.** Не мець сораму. *Гэто ж трэба вочы ў собакі позычыць, шчоб такэ вычвораць.*

**ВОЎКОМ ЗАВЫЦЬ.** Адчуць сябе самотным, нікому непатрэбным. *Ек роз'едуцца дзеці, то можна воўком завыць у хаці.*

**ВЫГНАЦЬ БЛОХІ.** Пакараць каго-небудзь за дрэнныя паводзіны. *Я ёй выжэну блохі, вона ў мэне будзе ек шаўковая ходзіць.*

**ВЫВЭРНУЦЬ КОЖУХА.** Моцна раззлавацца. *Я до его хорошэнько пыдышла, коб, крый Божэ, не ўгневіць, а вон ек вывэрне проці мэне кожуха – то не знала куды бегці.*

**ВЫКРУНТАСЫ ВЫРОБЛЯЦЬ.** Няроўна ісці або ехаць. *І сорому нема ў старого чоловека: набраўса гарэлкі да выкрунтасы выробляе ногамі на дорозі.*

**ВЫРАЧЫЦЬ ВОЧЫ.** Моцна здзівіцца. *Загадаў мне таку цэну за столярку, шчо я вырачыў вочы.*

**ВЭРНУЦЬ ГОРЫ.** Цяжка працаваць. *Мо ж горы не вэрнеш, ідзі хоць корові ў засторонок сена ўкінь.*

# Г

**ГІЗУНТЫ ВЫНЯЦЬ.** Даняць, дапячы. *Гэты выродок з мэне ўжэ ўсе гізунты выняў.*

**ГОЛЫ БЫ БІЗУН.** Бедны. *Жывэ голы бы бізун, а ўсе хваліцца, які вон добры хазяін.*

**ГОЛОВА ВАРЫЦЬ.** Пра разумнага, кемлівага чалавека. *У его голова варыць – любую задачу можэ рэшыць.*

**ГОЛОВА ЗВАРЫЛА.** Зрабіць неабдуманы, неразумны ўчынак. *Гэто ж голова зварыла ў такую непогодзь ехаць у лес.*

**ГОЛОВУ СКРУЦІЦЬ.** 1. Немагчыма зарыентавацца ў чым-небудзь. *Тут голову скруціш, покуль знайдзеш, дзе і шчо лежыць.* 2. Пагражаць каму-небудзь фізічнай расправай. *За такіе дзела я тобе, хлопчэ, голову скручу, так і знай.*

**ГОРНУЦЬ ГРОШЫ.** Мець добры заробак. *Вон не абылеякіе горне грошы.*

**ГОРЭЙ ЗЫЦІ.** Пажаданне нядобрага. *А коб ты горэй зышоў, ек цебэ ніколі неможна дождацца воврэмя.*

# Д

**ДАВАЦЬ КРУГА.** Ісці ці ехаць даўжэйшай дарогай. *Нема дорогі напрамік до Рубля, і мусілі даваць круга на Городок.*

**ДАЦЬ ЛУ́ПНЯ.** Набіць каго-небудзь (звычайна выкарыстоўваецца, калі размова ідзе пра дзяцей). *Даў лупня, то мо цепэр трохі будзе вучыцца, а то одны двояны ў дзённіку стояць.*

**ДАЦЬ НО́ГЦА.** Ударыць нагой. *Мамо, а мне Саша ногца даў!*

**ДАЦЬ ОДЧЭПНО́ГО.** Даць каму-небудзь гасцінец ці хабар як водкуп з мэтай атрымання пэўнай выгады. *Даў одчэпного лесніку, да шчэ добры воз дроў прывёз.*

**ДАЦЬ ПАЦА.** 1. Насварыцца. *Я ему даў паца, вон у мэне не будзе больш гыркацца.* 2. Энергічна, весела станцаваць. *Даў паца на вэселлі, ні одну польку не пропусціў.*

**ДАЦЬ ПО ША́ПЦЫ.** Не цырымоніцца з кім-небудзь; пакараць каго-небудзь. *Гэто вон дома герой, а там з ім доўго чыкацца не будуць, могуць даць по шапцы.*

**ДАЦЬ ПРЫКУРЫ́ЦЬ.** Моцна насварыцца ці пакараць фізічна. *Я ему даў прыкурыць, цепэр вон будзе мэне далеко обыходзіць.*

**ДЗІ́ВУ ДА́ЦЦА.** Моцна здзівіцца. *Я дзіву даласа, як гэто можна отправіць самэ дзіця ў такую вэлікую дорогу.*

**ДО РУК ПОБІ́ЦЬ.** Пагражаць каму-небудзь фізічным пакараннем. *Зарэ, шыбэльнік, ек возьму гэту палку, то до рук поб'ю.*

**ДУРНЫ́Е ГРО́ШЫ** (получаць). Добры заробак (атрымліваць). *Его сын дурные грошы получае, не знае ўжэ шчо есці і піць.*

**ДУРНІ́ЦОЙ ЗАНІМА́ЦЦА (ЗАЙМА́ЦЦА).** Рабіць нешта несур'ёзнае; бескарысна праводзіць час. *Дурніцой не занімайса, а ідзі корову догледзь.*

**ДУХ ЗАБІВА́Е.** Цяжка дыхаецца. *Ну і жарышчэ на дворэ, аж дух забівае.*

## Ж

**ЖМУ́РЭМ ПОЙЦІ́.** Пракіснуць. *Варэнне жмуром пошло, хоць ты вылівай его свінням.*

**ЖЫЦЬ СВОЕ́Ю ГОЛОВО́Й.** Кіравацца сваім розумам, самастойна прымаць рашэнні. *Трэба жыць своею головою, а ты ўсе дружкоў своіх слухаеш.*

# З

**ЗАБІ́ЦЬ ГО́ЛОВУ ЗАБУЗА́Н.** Задурыць, замарочыць галаву каму-небудзь. *Ідзі одсюль, забіў голову забузан мне своей пустой говоркой.*

**ЗАГОРЭ́ЦЦА БЫ СПІ́ЧКА.** Ускіпець. *Абылеякі характер: ек шчо не по ёй, то одразу загорыцца бы спічка.*

**ЗАКОПЫ́ЛІЦЬ ГУБУ́.** 1. Заганарыцца. *Ішла по дорозі да так закопыліла губу, шчо і не поздороваласа.* 2. Пакрыўдзіцца. *Я ёй праўду сказаў, але ж вона закопыліла губу і не одозваласа.*

**ЗАКУСІ́ЦЬ ГО́РА.** Зведаць цяжкае жыццё. *Немало закусілі гора ў войну.*

**ЗА СВЕТ.** Вельмі далёка. *Дато трэба было ехаць за свет? І ў своём селе можна жыць.*

**ЗА ШЧО Ў́ЗЯ́ЎСА.** Выраз, які ўжываецца для негатыўнай ацэнкі чыіх-небудзь паводзінаў, учынкаў. *Ба за шчо ўзяўса гэты недоросток: кажды дзень купляе папаросы і курыць украдзькі.*

**ЗБІ́ЦЦА З ШТЫ́КУ.** Страціць арыенцір. *Збіўса з штыку і не знаю, куды іці.*

**З ГОЛОВЫ́ ВЫ́КІНУЦЬ.** Не думаць больш пра каго ці што-небудзь. *Я ўжэ з головы выкінуў тую говорку з прэдседацелем, бо толку од его не доб'есса.*

**З ГОЛОВЫ́ НЕ ВЫЛА́ЗІЦЬ.** Думаць увесь час пра каго- ці што-небудзь. *У мэне ўсе з головы не вылазіць думка про сына.*

**З ГОЛОВЫ́ НЕ ЗЛА́ЗІЦЬ.** Прасіць, дамагацца. *Я з лесніковой головы не злезу, вон седно мне дасць пару колодок, шчоб дошчок нарэзаць на плот.*

**З ГРАЗЕ́Й ЗМЭША́ЦЬ.** Зганьбіць, знясдавіць. *Не чэпай ты гэту мару, бо вона цебэ ні за шчо з гразей змэшае.*

**З ГУЗДРО́М ПОНЕСЦІ́.** Скрасці ўсё. *Нехто залез уночэ ў кладоўку і ўсе з гуздром понёс.*

**З ГУРАЛЕ́Й.** З горкай. *Не шкодуй, насып вішэнь з гуралей у вэдро.*

**З ДО́БРОГО ДЗІ́ВА.** Нечакана, беспадставуна. *З доброго дзіва роскрычаласа на мэне.*

**З'Е́СЦІ Ў СУХЭ́ ГО́РЛО.** Згубіць, паламаць. *Я ж тобе купляў недаўно мяча, то ўжэ зноў з'еў у сухэ горло.*

**З'Е́ХАЦЬ ГОРЭ́Й.** Пажаданне нядобрага. *Шчоб ты з'ехаў горэй, ек у цебэ нічого не допросішса.*

**З МЯ́СОМ (ВЫРВАЦЬ).** Разам з тканінай (адарваць гузік). *Купіла недаўно новэнькую рубашку, прышоў з клуба – вырваные ўсе гузікі з мясом.*

**ЗНАЙЦІ́ СОБЕ́ СІЛО́.** Трапіць у непрыемную сітуацыю. *Вон жэ не можэ жыць спокойно, то знайшоў собе сіло.*

**ЗНАЙЦІ́ ХВОРО́БУ НА СВОЮ́ ГО́ЛОВУ.** Апынуцца ў складанай, непрыемнай сітуацыі. *Не седзеў Міша спокойно ў хаці, да знайшоў хворобу на свою голову.*

**ЗНІМА́ЦЬ ША́ПКУ.** Дагаджаць каму-небудзь. *А чого мне пэрэд ім шапку знімаць? Вон жэ такі калхознік, як і я.*

**ЗНО́СУ НЕМА́.** Што-небудзь моцнае, трывалае. *Ужэ котору зіму хожу ў сапожках і зносу нема ім.*

**З О́ПАЛУ (ГАРА́ЧКІ).** З перапуду. *Вона з опалу не знала, куды ёй бегці.*

**ЗО́РЫ З ВОЧЭ́Й ПОСЫ́ПАЛІСА.** У каго-небудзь пацямнела ў вачах ад моцнага ўдару. *Так стукнуўса головой об вушак, шчо аж зоры з вочэй посыпаліса.*

**ЗУ́БЫ ПОКАЗА́ЦЬ.** Груба адмовіць у чым-небудзь, раззлавацца. *Ты его не знаеш: вон можэ добрэ зубы показаць.*

**ЗУ́БКІ ПРОРЭ́ЗВАЮЦЦА.** Выяўляецца характар, падкрэсліваецца незалежнасць. *Ходзіла бы мышка: не відно і не чутно было, а цепэр ужэ осмэлела, зубкі прорэзваюцца.*

**ЗЫ́ЗУБ СТАЦЬ.** Заўпарціцца, не слухацца. *Я попросіла его сходзіць купіць хлеба, а вон зызуб стаў.*

## І

**І ДЗЕСЯ́ТОМУ ЗАКАЗА́ЦЬ.** Запомніць надоўга, не мець жадання рабіць нечага дрэннага. *Я его добрэ провучыў, цепэр вон і дзесятому закажэ, як лезці біцца.*

**І ДЗІ́ВУ НЕМА́.** Пра тое, што не выклікае здзіўлення. *І дзіву нема, шчо іх сын такі: які́е родзічы, такіе і плодзічы.*

**І КРЫШКІ́ ЗОБРА́Ў.** Вельмі падобны. *Але такэ ўжэ дзіця похожэ на бацька – і крышкі зобрало.*

**І НЕ ПОТОЧЫ́ЦЦА.** Не прыйсці. *Гэты брэхун і не поточыцца больш у мою хату.*

**І НЕ ТУ́РАЦЬ.** Не лічыцца з чыёй-небудзь думкай. *А вон і не турае, ему ні бацько, ні маці не ўказ.*

**І НЕ ШМАНА́ЦЬ.** Не баяцца; не зважаць на чые-небудзь парады. *Ёй хоць говоры, хоць не говоры, вона і не шманае.*

**І СЁЛЬКІ ТОГО́.** Не падумаць пра нешта; не браць пад увагу. *Я і сёлькі того: ідзе нехто прыцемком – нехай собе ідзе, а гэто ж Андрэёў сын вэрнуўса з арміі.*

**І Ў ГО́ЛОВУ НЕ БРА́ЦЬ.** Не звяртаць увагі. *Я і ў голову не бэру тэ, шчо вон кажэ.*

**ІЦІ́ НА КО́ЗЫР.** Не лічыцца з чыёй-небудзь думкай; паказваць сваю перавагу. *Олесь стаў іці на козыр, хоцеў показаць, які вон розумэц.*

## К

**КАПО́РЭ ВОНЭ́.** Выраз, які ўжываецца, калі размова ідзе пра нешта неістотнае, не самае важнае. *Потрацілі грошэй немало на вэселле, але капорэ вонэ, неяк пэрэжывом.*

**КЛЕПА́ЛО ПЭРЭПА́ЛО.** Часта паўтараць адну і тую ж недзе пачутую фразу. *От клепало пэрэпало тобе: цепэр увэсь дзень будзеш бумкаць однэ і тэе ж.*

**КЛЕ́ПЧЫНЫ НЕМА́.** Неразумны. *Хіба ў его клепчыны нема, да пойдзе зноў жыць до той роспусты.*

**КОЗ ВОЗ.** Многа. *Прышла до нас у хату , наговорыла коз воз і побегла далей недзі.*

**КОЛІ́ ТЭ СВЯ́ТО БУ́ДЗЕ.** Пра тое, што невядома, колькі яшчэ давядзецца чакаць. *Дато будом ждаць колі тэ свято будзе, трэба бэз Толя почынаць заліваць фундамэнт на хлеў.*

**КРУЦІ́ЦЬ ХВОСТЫ́.** Пасвіць (кароў). *Вучыса, бо будзеш коровам круціць хвосты.*

**КРЭСТ МАЦЬ.** Не мець дачынення. *Я од гэтого дурня крэст маю: нехай як хочэ, так і жывэ.*

**КУДЫ́ ЦЕБЭ́ ВЭДЗЕ́.** Выраз, які ўжываецца, калі чалавек паводзіць сябе заліше самаўпэўнена, перабольшвае свае здольнасці. *Куды цебэ вэдзе, вэльмі ўжэ розумны стаў, але шчэ бэз бацька і мацеры ты нікуды не варты.*

**КУСО́К ЛЕ́ЖНЯ.** Лодыр. *Гэто ж такі кусок лежня росце, шчо нічогусенькі неможна загадаць.*

**КЭ́ПЭЛЬ ЗВАРЫ́Ў.** Гл. *голова зварыла.*

## Л

**ЛЕДЗЬ НО́ГІ ЦЯГА́ЦЬ.** Аслабець ад хваробы ці старасці. *Такі здоровіна чоловек быў Грыцко , а цепэр ледзь ногі цягае.*

**ЛЕДЗЬ ЦІЎКАЦЬ.** Быць слабым, хворым. *Хвэдор ужэ зусем слабэнькі стаў, ледзь ціўкае.*

**ЛЕДЗЬ ЧЭ́РЭВО НОСІ́ЦЬ.** Распаўнець. *Думаеш гэто добрэ, шчо вон ледзь чэрэво носіць.*

**ЛО́ГОМ ЛЕЖА́ЦЬ.** Моцна хварэць. *Простудзіласа свэкроў да логом лежыць у ложку.*

**ЛЫЧА́ ЗАДРА́ЦЬ.** Заганарыцца. *Нехай лыча не задзірае: нема чым ёй вэльмі гонорыцца.*

**ЛЫЧА́ ПОМЭСІ́ЦЬ.** Моцна пабіць каму-небудзь твар. *Лезе гэты ёлуп до каждого біцца, то нехто ему лыча помэсіў -- ходзіць бы собака побіты.*

## М

**МА́РНЕ ПРОПА́СЦІ.** Бясследна знікнуць. *А коб ты марне пропаў, ек мне ўжэ ўпёкса з своімі дружкамі.*

**МАЦЬ СВОЮ́ ГО́ЛОВУ НА ПЛЕЧА́Х.** Самастойна ўзважваць наступствы сваіх учынкаў, паводзінаў. *Чого мне ўсе ўказваць, як ему жыць. Не маленькі ж, ужэ пора маць свою голову на плечах.*

**МІР НЕ ПО́МНІЦЬ.** Прыгожы, магутны, моцны. *А дуб той – мір не помніць: ек погледзіш на его вэрх, то шапка спадае з головы.*

**МЭНЦІ́ЦЬ (ЛЯ́СКАЦЬ) ЯЗЫКО́М.** Гаварыць абы-што, балбатаць. *Робіць нема чого, то менціць языком.*

## Н

**НА ДРО́БНЫ МАК.** На маленькія кавалачкі. *Сподочок розбіўса на дробны мак.*

**НА ДУРНЯ́К (ЖЫЦЬ).** Жыць за кошт іншых, нічога не рабіць. *А ці ж вон пэрэробіўса? Усю жызнь жыў на дурняк.*

**НАКІ́НУЦЬ ЧМУТУ́.** Ачмурыць. *Бы якую чмуту накінулі на чоловека: змэніўса зусем, зробіўса некі злы, нелюдзімы.*

**НАКРУЦІ́ЦЬ ХВОСТА́.** Прапясочыць. *Я ёй цепэр накручу хвоста, вона ў мэне не будзе больш волочыцца до ранку.*

**НА́ЛІХО ДА НА́ПУСТО ПОШЛО́.** Выраз, якім сцвярджае хто-небудзь, што ён не горшы за іншых. *Наліхо да напусто мне пошло, шчоб гэта я ўжэ не зробіў такого слончыка.*

**НА́ЛІХО ПО́ШЛО.** Пажаданне нядобрага. Выкарыстоўваецца для выяўлення пачуцця абурэння ці асуджэння. *Ему наліхо пошло, помогці нічого не хочэ, толькі грошы давай.*

**НА МАКУ́ХУ.** Моцна (збіць). *Гэто ж збілі хлопца на макуху, і не знають хто.*

**НА ОБЫХО́ДКУ.** Прызначаныя на дробныя пакупкі (грошы). *Грошы трохі е на обыходку.*

**НА ОДНО́Й ДУРНІ́ЦЫ ЖЫЦЬ.** Несур'ёзна сябе паводзіць, рабіць шкоду. *Гэто такі ў іх сын: на одной дурніцы жывэ.*

**НА ОДНО́М ОБМА́НІ ЖЫЦЬ.** Хлусіць. *І зародзіцца ж такі чоловек: на одном обмані жывэ.*

**НА ОДНО́Й ШКО́ДЗІ ЖЫЦЬ.** Часта рабіць шкоду. *От бацькам неспокой од гэтого дзіцяці: на одной шкодзі жывэ.*

**НА ПОПА́ (СТАВІЦЬ).** Старчаком (ставіць). *Давай поставім на попа колоду.*

**НАШЧО́ СЕ́РЦА.** Нашча, нічога не еўшы. *Не еші грушы нашчо серца, бо жывот будзе болець.*

**НЕ БРАЦЬ У ГО́ЛОВУ.** Не засяроджваць увагу на чым ці кім-небудзь; не адчайвацца. *Не бэры ў голову тэ, шчо вона говорыць, ты не горшы за ее.*

**НЕ ДОБІ́ЦЦА СКУ́ТКУ.** Не мець жаданых вынікаў. *Ходзіла цэлы дзень по начальніцкіх кабінетах і нідзе не добіласа скутку.*

**НЕ ДУ́МАЙ СОБЕ́ ТОГО́.** Выраз, які ўжываецца для ўзмацнення выказвання. *Не думай собе того, так розболелосо плечо, хоць ты до доктора ідзі.*

**НЕ ЗРЫВА́ЦЦА З МЕ́СТА.** Не рызыкаваць. *Не зрывайса з места, бо ніхто там цебэ вэльмі не жджэ.*

**НЕМА́ ДО́СТУПУ.** Не мець знаёмых у якой-небудзь установе, магчымасці што-небудзь набыць, займець. *У мэне нема доступу до начальства, ек у Сцепана: его кругом усе знають.*

**НЕМА́ ЗА ШЧО ЗУ́БА СЦЕРЭБІ́ЦЬ.** Бедна жыць. *У его ж нема за шчо зуба сцерэбіць, а ты хочэш, шчоб вон коня купіў.*

**НЕМА́ КЭЛЕ́ КОГО́ ПРЫПЭРЫ́ЦЦА.** Жыць адзінока, без дарослых дзяцей. *Нема старым кэле кого прыпэрыцца, усе дзеці пороз'езджаліса по свету.*

**НЕМА́ ШЧО БА́ЧЫЦЬ.** Вельмі мала. *А колькі мы тых дроў прывэзлі – нема шчо бачыць.*

**НЕ́МІР СТОІ́ЦЬ**. Сварка. *Ужэ которы дзень у хаці немір стоіць.*

**НЕМО́ЖНА НАБРА́ЦЦА.** Пра тое, што хутка траціцца, разыходзіцца. *Неможна набраццa цукру, столькі ідзе его багато на варэнне.*

**НЕ ПАК**. Не горшы. *У мэне не пак твого конь.*

**НЕЎМЕ́ЛКУ ЧОЎПЦІ́.** Дурэць, сваволіць. *Шчо воны там вычворалі, то і не роскажэш: до ночы і гулялі, і неўмелку чоўплі.*

**НЕ ХВО́РНЫ.** Пра таго, хто не хоча што-небудзь сам рабіць, а спадзяецца на іншых. *Не хворны і вон з'ездзіць у лес по дрова, онь якэ чэрэво наеў.*

**НЕ́ШЧО БОНУ́ЛО.** Раптам адчуць, зразумець што-небудзь. *Тут мэне нешчо бонуло: не гэ вон до мэне прышоў.*

**НІ ГАЎ НІ ДЗЯЎ.** Ніяк не адрэгаваць на што-небудзь. *Напаковала невесцы ў сумку ўсёго, а невесточка ні гаў ні дзяў.*

**НІ ДВА НІ ТРЫ.** Прамаўчаць. *Я сказала ему, шчо трэба будзе неяк помогці цётцы, а вон ні два ні тры.*

**НІЗКІ́ НА ВО́ЧЫ.** Той, хто мае дрэнны зрок. *Колісь, ек дзеўчына была нізка на вочы, то ганьбовалі ей, а цепэр онь колькі ў очках ходзяць.*

**НІ ЁДУ НІ ШМОРО́ДУ.** Нічога. *Не хочу я ні ёду ні шмороду, дайце мне трохі спокойно пожыць.*

**НІ К ТЫ́НУ НІ К ПЛО́ТУ.** Нікуды не варты, абы-які. *Купіў неку шапку ні к тыну ні к плоту, а цепэр носіць не хочэ.*

**НІ ТРЭ́СНІ НІ ЛЯ́СНІ.** Нічога няма. *Прышлі госці, а ў хаці ні трэсні ні лясні.*

**НІЧО́ГО НЕНАЎМЕ́Х.** Быць да ўсяго абыякавым. *Натоміўса за дзень на робоці, шчо нічого ненаўмех.*

**НІ (І) ШНЭ́РА.** Нічога. *От колішніх болот цепэр ні шнэра не засталоса.*

**НОГІ́ НЕ ПЭРЭСТА́ВІЦЬ.** Беспарадак. *Зайшла ў хату, а там ногі не пэрэставіць – бы после пожару.*

**НОРЦА́ ДАВА́ЦЬ.** Ныраць. *Давай з порома норца дамо.*

## О

**ОБЫЦІ́ БО́КОМ.** Не мець ніякіх зносінаў з кім-небудзь, асцерагацца каго-небудзь. *Обыдзі боком гэту пламэтну, бо потом не одчэпішса.*

**ОГО́НЬ (ГОНЬ) МА́Е (ЯГО, ЯЕ).** Нечага ці некага няма. *Хоцеў ножоўкой обрэзаць сука, але огонь ее мае.*

**ОДНА́ СЛА́ВА.** Усё роўна. *Помогаў я дзецям ці не помагаў – одна слава.*

**ОДНА́ ХА́ТА.** Быць у сяброўскіх адносінах. *Цепэр у Манькі з Ганною одна хата, бегаюць одна до другой бэспэрэстанку.*

**ОПА́СЦІ НА НО́ГІ.** Захварэць на ногі (звычайна пра жывёлу). *Нека хвороба напала на целя нашэ, да опало на ногі.*

**О́СЕШ ТАМ (ВОНЭ́).** Выраз, які выкарыстоўваецца, каб падкрэсліць малазначнасць чаго-небудзь. *Осеш там, неяк пэрэбудом гэту зіму бэз молока, а там будом бачыць, шчо з гэтой коровой робіць.*

# П

**ПЛЮ́СКАЦЬ ВОЧЫ́МА.** Няёмка сябе адчуваць. *Возьмі якого подарка з собой, бо будзеш плюскаць вочыма.*

**ПОЙЦІ́ СКРЭ́ДОМА.** Адправіцца ў невядомым кірунку. *А хто знае, дзе вон блудзіць: нема цэлы дзень, недзі пошоў скрэдома.*

**ПО́КОТОМ ЛОЖЫ́ЦЦА.** Моцна смяяцца, рагатаць. *Ек почала вона ўспомінаць, як Іван до ее сватаўса, то мы покотом ложыліса.*

**ПОРО́ЦЬ ГАРА́ЧКУ.** Спяшацца. *Не поры гарачку, бо толькі людзей насмэшыш.*

**ПОСТО́ПКА (ПЯ́ТКІ) НЕ ВА́РТЫ.** Нікчэмны чалавек. *Да вон жэ своей жонкі постопка не варты, а бач шчо выробляе.*

**(ПРОПА́СЦІ) БЫ БУ́НЬКА НА ВОДЗЕ́.** Бясследна знікнуць; апынуцца ў складанай сітуацыі. *А я тобе кажу седзі дома, нікуды не едзь, бо пропадзеш бы бунька на водзе.*

**ПРОЧЫНІ́ЦЬ ДЗВЭ́РЫ (ХА́ТУ).** Наведацца. *От дожыліса старые: нема кому дзвэры прочыніць, самые седзяць у хаці.*

**ПРЫ́ДЗЕ КОЗА́ ДО ВО́ЗА.** Давядзецца нешта прасіць. *Пошкодоваў борону даць, але прыдзе коза до воза, ты ў мэне тожэ нічого не получыш.*

**ПРЫНЕСЦІ́ ДЗІЦЯ́ Ў ЗАПО́ЛІ.** Нарадзіць пазашлюбнае дзіця. *Гледзі, не прынесі дзіця ў заполі, бо потом на цебэ ніхто і не погледзіць.*

**(ПРЫЦІ́) НА РОЗБО́Р ША́ПОК.** Спазніцца. *Шчо ж вы прышлі на розбор шапок? Я ўжэ ўсе хорошые гуркі продала.*

**ПУСЦІ́ЦЦА ЗА ВОДО́Ю БЭЗ ВЭСЛА́.** Рызыкаваць чым-небудзь; рабіць неабдуманы ўчынак. *Ці то ж у ее голова е на плечах? Кінула хату і пусціласа за водою бэз вэсла, поплеласа неведомо дзе шукаць шчасця.*

**ПУСКА́ЦЬ ЗА ВОДО́Ю.** Пра дрэннага, нікчэмнага чалавека. *Пускай за водою такого чоловека, ек вон ужэ з пэрвого дня до жонкі лезе біцца.*

**ПЫДБІ́ЦЬ НО́ГІ.** Стаміцца. *Пыдбіла ногі, покуль прышла з соток.*

**ПЫДРЭ́ЗАЦЬ РО́ГІ.** Прыструніць. *Пыдрэзалі ему трохі рогі, поспокойнеў, а то роспусціўса зусем.*

**ПЭКЦІ́ Ў ВО́ЧЫ.** Гаварыць праўду. *Я не вэльмі соромяюса брыгадзера, пэку ему ў вочы ўсе, шчо думаю.*

## Р

**(РОБІ́ЦЬ) БЫ ЧО́РНЫ ВОЛ.** Многа працаваць. *Ек каждьы дзень трэба робіць бы чорны вол, то йдзе ж тэ здороўе будзе.*

**РОЗРЭ́ЗАЦЬ ХЛЕБ.** Разысціся ў поглядах, не мець больш ніякіх зносінаў. *Попобегалі однэ до другого, а цепэр розрэзалі хлеб і здороўкацца не хочуць.*

**РЭ́БРА ПОМЭСІ́ЦЬ.** Моцна набіць каго-небудзь. *Усе своей сілой хваліўса, то нехто помэсіў ему рэбра – зарэ ледзь ходзіць.*

**(РЭЎЦІ́) БЫ НА ЖВОТ (ЖЫВОТ).** Моцна крычаць. *Чого ты там рэвэш бы на жвот? Ці не можна спокойно сказаць, шчо тобе трэба.*

## С

**СВОЕ́ ПРА́ВО ПРА́ВІЦЬ.** Нікога не слухацца, рабіць па-свойму. *Толку, шчо ему говорыш, вон усерэўно свое право правіць.*

**СВОЕ́Й СУХО́ТЫ ХВАТА́Е.** Мець свой клопат. *У мэне своей сухоты хватае, а я буду шчэ ў нечые дзела лезці.*

**СВОЙ РО́ЗУМ НЕ ЎСТА́ВІШ.** Пра чалавека, які не слухае чужых парадаў. *А шчо ты ей зробіш? Свой жэ розум не ўставіш – нехай жывэ як хочэ.*

**СЕ́РЦЭ ГОРЫ́ЦЬ.** Трывожыцца; адчуваць роспач. *А ў мэне серцэ горыць: хто его знае, шчо там з дочкой.*

**СЕ́РЭ БЕ́ЛЭ.** Усё роўна. *А ему серэ белэ, хоць говоры, хоць не говоры.*

**СІЛО́ ШУКА́ЦЬ.** Рабіць неабдуманы ўчынак, заганяць сябе ў пастку. *Ек вон зноў собе сіло шукае, то знайдзе.*

**СОБА́ЧЫЕ ВО́ЧЫ ПОЗЫ́ЧЫЦЬ (МЕЦЬ).** Не мець сораму. *Гэто ж трэба собачые вочы позычыць, шчоб іці по суседзях да просіць грошэй на выпіўку.*

**СО́НЦЭ Ў ЗУ́БЫ ЗАГЛЯ́ДВАЕ.** Позні ранак. *Уставай, ужэ сонцэ ў зубы заглядвае, пора худобу догледаць.*

**СТО ЧОРТО́Ў ВА́РТЫ.** Дрэнны. *А ты думаеш, вона лепшая? Тожэ сто чортоў вартая.*

**СТОЯ́ЦЬ НА ДЗЫ́ГЭЛІ.** Мёрзнуць на халодным пранізлівым ветры. *А чого ты будзеш стояць на гэтом дзыгэлі, зусем окачанееш.*

## Т

**ТРЫ ШКУ́РЫ ЗДЗЕ́РЦІ.** Запатрабаваць вялікую плату. *Не ідзі просіць до Пэтра коня, бо вон тры шкуры здзерэ з цебэ.*

## У

**УБІ́ЦЬ У СВОЮ́ ГО́ЛОВУ.** Надумацца нешта зрабіць. *Гэто ж убіў у свою голову, шчо толькі цепэр ему трэба ехаць у лес, бытто заўтра нема дня.*

**УЗЯ́ЦЬ НА ПЭРЭЛО́ГІ.** Захварэць. *Вон думаў, шчо вечно будзе здоровы, але і его добрэ ўзяло на пэрэлогі – ледзь ногі цягае.*

**УЗЯ́ЦЬ НА ЦЫЛІ́НДРЫ.** Прымушаць прызнацца ў чым-небудзь. *Не хоцеў прызнавацца гэты дурэнь про свое махінацыі, але ек узялі его хлопцы на цыліндры, то ўсе мусіў росказаць.*

**УЗЯ́ЦЬ У МЯ́ЛІЦУ.** Пабіць. *І тут ек узялі хлопцы гэтого розумца ў мяліцу, то ледзь жывы остаўса.*

**УКЛІБІ́ЦЬ У ГО́ЛОВУ.** Пераканаць у чым-небудзь. *Ніяк не могу гэтому дурню ўклібіць у голову, шчо трэба вучыцца.*

**У О́БМОЛОДЗЬ ПОЙЦІ́.** Памаладзець. *Бульба ў обмолодзь пошла, зноў зацвіла.*

## Х

**ХАЙ СТРЭ́ЧА СТРЭ́ЦІЦЬ.** Пажаданне нечага нядобрага. *А чого мне іці его стрэчаць: хай его стрэча стрэціць.*

**ХВОРО́БУ З'Е́СЦІ.** Мець нейкую непрыемнасць. *Хворобу вон з'еў: думаў пыдмануць мэне, але не на того попаў.*

**ХВОРО́БУ НА СВОЮ́ ГО́ЛОВУ ШУКА́ЦЬ.** Рызыкаваць чым-небудзь. *І трэба ему ўсе хворобу на свою голову шукаць, ніяк спокойно жыць не хочэ.*

**ХОДЗІ́ЦЬ ОД ГІ́РША ДО ГІ́РША.** Нічога не робіць. *У его нема клопоту, ходзіць од гірша до гірша по селе.*

**ХОДЗІ́ЦЬ ПО НАЧА́ЛЬНІКАХ.** Вырашаць якую-небудзь справу з кіраўнікамі рознага рангу. *А як жэ, трэба было немало ходзіць по начальніках, шчоб гэтые бумагі высстарацца.*

**ХОЦЬ ТЫ ГО́ЛОВУ СКРУЦІ́.** Пра непаслухмянага чалавека. *Нічого не хочэ слухаць, хоць ты ему голову скруці.*

**ХОЦЬ ТЫ ПА́ДАЙ.** Пра тое, што выклікае здзіўленне, абурэнне. *Зайшла ў хату, а там хоць ты падай: усе кругом пороскіданэ.*

## Ч

**ЧОРТ З ЛОЗЫ́.** Абы-які, дрэнны. *Не чоловек, а чорт з лозы, ніколі і доброго слова не скажэ.*

**ЧОРТ ПОПОДАВА́Ў.** Пра таго, каго моцна пабілі. *Чорт поподаваў ему, не будзе цепэр скакаць біцца.*

**ЧО́РТОМ ПЫДШЫ́ТЫ.** Дрэнны, хітры чалавек. *Гэто толькі здаецца, шчо Міхалко спокойны чоловек, а вон тожэ добрэ чортом пыдшыты.*

**ЧЭРЭ́З ПЕНЬ-КОЛО́ДУ.** Абы-як. *Чэрэз пень-колоду ў его ўсе гэтэ робіцца: шах-мах – і готовэ.*

## Ш

**ШКУ́РА ВО́ЎЧА.** (Нехта) дрэнны. *Ну і шкура воўча, просіў, коб прывёз мне воз дроў, і не захоцеў.*

**ШКУ́РА ГОРЫ́ЦЬ.** Кручаны, непаседлівы. *На ём шкура горыць, ні мінуты не поседзіць.*

**ШЧО ЎБІ́Ў ТО ЎЕ́ХАЎ.** Нічога не дзейнічае. Пра лянівага чалавека. *Нічогусенькі не хочэ робіць гэты лодар: шчо ўбіў то ўехаў.*

**ШЧОБ І ЗА́ВОДУ НЕ БЫЛО́.** Понасцю. *Стравілі бульбу свіннямі, шчоб ее і заводу не было, бо вэльмі абылеякі сорт.*

**ШЧОБ ТЫ ЦЯ́МАЎСА (ЦЯ́МАЛАСА).** Пажаданне нядобрага. *От шчоб ты цямаўса, ек ты мэне так моцно напужаў.*

**ШЧО́ТО Я.** Выраз, які ўжываецца, калі размова ідзе пра самаўпэненага, фанабэрыстага чалавека. *Вон такі чоловек: усе шчото я, а другіе нічого не понімаюць.*

**ШЧЭПІ́ЦЬ ЗУ́БЫ.** Раззлавацца. *Бачу, вона ўжэ шчэпіла зубы, але здзержаласа, нічого не сказала.*

## Я

**ЯД ПРОКЛЯ́Т.** Дрэнны чалавек. *От яд проклят, толькі гадосць якую-небудзь способны зробіць, а доброго – нічого.*

**ЯДОВІ́ТЫ НА ЯЗЫ́К.** Зламоўны. *Не дай Бог ее зачэпіць: ядовітая на язык, тут жэ цебэ з гразей змэшае.*

**ЯЗЫКО́М ТРЭПЭСТА́ЦЬ.** Гаварыць абы-што, балбатаць. *Ек стане своім языком трэпэстаць, то ўсех обганіць – одна вона добрая.*

*Даведачнае выданне*

**Пашкевіч** Мікалай Іванавіч

# *РУБЕЛЬСКІ ЛЕКСІКА-ФРАЗЕАЛАГІЧНЫ СЛОЎНІК*

Для студэнтаў-філолагаў

Рэдактар *М.І. Новік*

Падпісана ў друк 13.03.2008. Фармат $60\times84^{1}/_{16}$. Папера афсетная.
Гарнітура Таймс. Рызаграфія. Ум. друк. арк. 3,95. Ул.-выд. арк. 3,39.
Тыраж 100 экз. Заказ № 98.
Выдавец і паліграфічнае выкананне:
установа адукацыі “Брэсцкі дзяржаўны універсітэт імя А.С. Пушкіна”.
224016, Брэст, вул. Міцкевіча, 28.
ЛВ № 02330/277 ад 30.04.2004.